

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 14 (13546)

30 сакавіка— 5 красавіка 1992 года

Цана 2 рублі.




# СЯБРЫ! ВЫШЧЫРАЙЦЕСЯ ШЧЫРА!

## АКРОМ ЖАРТАЎ

Ішоў я нядаўна па вуліцы, дый убачыў: у кіёску – газета "Праўда". На беларускай мове. Здзівіўся. Пайшоў далей. У краме – гарэлка па пяць трыццаць і каўбаса па рубель восемдзесят. Абрадаваўся. Пайшоў далей. У метро – пятак! Цудоўна, паедзем... Заходжу ў валютны аддзел – чарга! Італьянскія боты. Па 18 талераў. Памацаў галаву – праверыў, мо дзе згубіў, працёр вочы, раптам сплю – і нарэшце паглядзеў на гадзіннік. А там дата стаіць: 1 красавіка. Га, дык сёння ж зарплата! Пабег у касу – во ўжо набуду і гарэлкі, і каўбасы, і ботаў, а на метро накатаюся!.. І атрымаў...

Жартачкі, жартачкі... Добра з намі жартуюць! Увесь год, не толькі першага красавіка. Жартуе ўрад, члены якога імкнуцца прыватызаваць усё, што можна, а што нельга – пакінуць нам... Жартуюць заканадаўцы, якія прымаюць законы, з якіх заходнія эксперты стаміліся нават смяяцца. Жартуюць праваахоўныя органы, якія штрафуюць розных прадпрымальнікаў на такія сумы, што самім смешна. Жартуюць гэтыя самыя прадпрымальнікі, якія ўзвінчваюць цэны да ўзроўню Эйфелевай вежы. Жартуюць прастытуткі, што вырашаюць не павялічваць плату за свае паслугі, бо плаціць няма чым. Жартуюць уласныя жонкі, калі абяцаюць прыгатаваць на абед эскалоп па-гаіцянску і суп з гнёздаў ластаўкі. Жартуюць іхнія мужы, калі сцвярджаюць, што атрымліваюць у два разы больш, чым на самай справе – каб сорамна не было перад жанчынамі. Жартуюць таксісты, якія бяруць за рэйс "Ад Чыжоўкі да Камароўкі" столькі ж, колькі раней бралі ад Бабруйска да Тэль-Авіва. Жартуе тэатр "Хрыстафор", калі яго вельмі таленавітыя акцёры сцвярджаюць са сцэны, што ім усё роўна – якога колеруануча вісіць над Домам урада... Жартуюць? А можа праўду кажуць?

Можа сапраўды, трэба ўзняць над Вярхоўным Саветам Зялёны сцяг Прарока і далучыцца да Турцыі? Альбо пачаць мяняць беларускія трактары на афрыканскія ананасы? Усё роўна на Беларусі гэты трактар набыць ніхто не можа. Альбо засеяць бульбяныя палеткі чырвонымі гваздзікамі, каб кожны мужчына, якога жонка паслала па бульбу, прыносіў ёй узамен букет кветак і віншаваў штодзень з 1-м красавіка? Альбо... Не да жартаў, панове. Шмат гадоў жартавалі з намі "тыя, хто камандаваў". Працягваюць жартаваць і зараз. Сур'ёзна жартуюць. Беспакарана...

Таму і не будзе ў нас у бліжэйшы час таннай каўбасы, бананаў па 10 рублёў за кілаграм, абутку, які можна набыць, і не марыць голадам сям'ю... Таму, што першае красавіка, якое пачалося ў кастрычніку 1917, працягваецца...

Алесь Палынскі.

## ALFA

# Перыяд накаплення капіталу

У адным з апошніх нумароў "Звязды" прачытаў нататкі Сяргея Шаўцова пад загалоўкам "Добрыя немцы і "галодныя" беларусы". Чырвонай рысай праз увесь артыкул праходзіць сцвярджэнне, што беларусы не так ужо і дрэнна жывуць, калі ціснуцца ў чэргах за італьянскімі плашчамі, ды й "на вуліцах дагэтуль не падбіраюць трупы памёршых галоднай смерцю". Так, трупы не падбіраюць. Але... Яшчэ год таму стары дзед у краме сцвярджаў, прычым на павышаным тоне: "Хіба мы дрэнна жывём? Масла ёсць, смятана ёсць, хлеб капейкі каштуе. Вось у вайну жылі...". Тады яшчэ за хлебам не выстройваліся даўжэзныя чэргі, масла было без талонаў, а пра купоны народ ведаў толькі тое, што іх нейкім чынам трэба стрыгчы. Дык няўжо няма падстаў сцвярджаць, што далей будзе яшчэ горш? Вытворчасць скарачаецца, замежных інвестыцый, як у Польшчу, не прыходзіць. Вядома, як у блакадным Ленінградзе, мы жыць не будзем, але і паляпшэння ў бліжэйшы час чакаць не прыходзіцца.

Ідзе працэс накаплення капіталу. Гэты час – самы жорсткі, самы бескампрамісны, самы, я б сказаў, бесчалавечны. На каго ж тут спадзявацца? Калега Шаўцоў раіць: "Толькі на сябе". Так, усё лагічна. Ніхто нашых праблем, акрамя нас, не вырашыць. І тут зноў напрошваецца слова "але". У такім разе, чаму, завошта мы плацім дзяржаве такія вар'яцкія падаткі? На ўтрыманне войска? На фінансаванне адукацыі? На культуру? Дык такое вялізнае войска нам не патрэбна, народная адукацыя і культура стаяць у падземным пераходзе ля Камароўкі з працягнутай рукой, ахова здароўя таксама больш нічога не ахоўвае. Дык за што ж плацім, пытаюся зноў? Ведаеце, нават зараз шмат хто думае, што тыя 10–12 працэнтаў, якія бяруць з нашай зарплаты, – гэта ўсё, чым мы дзелімся з дзяржавай. Наіўныя! У прадпрыемстваў забіраюць большую частку прыбытку – маўляў, хопіць з вас і 30–40 працэнтаў... Капітальнае будаўніцтва? Дык колькі ў нас будоўляў з пасівелай ад часу барадой? Пра жыллё ўжо і гаварыць не прыходзіцца... Не, дзяржава наша, дакладней, яе органы ўлады, а яшчэ дакладней, тая партнаменклатура, якая ў іх засела, абсалютна нічога не зробяць, каб апраўдаць тыя сродкі, якія трацяцца на кіраванне. Так што сапраўды трэба спадзявацца толькі на сябе, на сваю прадпрымальнасць.

Перамелецца – мука будзе. Але якіх ахвяр запатрабуе ў нас, зярняткаў з ссохлага палетку, млын, запушчаны сем гадоў таму? А ці трэба было яго запускаць? Ці былі ў сацыялізму эканамічныя рэзервы? Калі б з розумам, з адказнасцю, не разбураючы адразу асноўных эканамічных прынцыпаў, падысці без суб'ектывізму да рашэння набалелых праблем, тады б і не ўздыхалі ў чэргах: "Ой, як добра было пры Брэжневе"... Іншая справа, што грамадства без канкурэнцыі не спрыяла аб'ектыўнасці...

А пакуль... Гаспадар дачы манціруе пад падлогай выбуховае прыстасаванне, якое спрацоўвае пры націску кнопкі магнітафона. Пры выбуху гінуць зладзеі, але і ад дачы не застаецца нічога... Бізнесмен, які паехаў за мяжу ў камандзіроўку, пакідае ў абсталяванай сігналізацыяй кватэры бутэльку атручанага каньяку... І знаходзіць у сваёй кватэры тры трупы міліцыянераў... У падземным пераходзе ля Мінскага чыгуначнага вакзала сядзіць добра апрануты хлапчук і збірае міласціну... Што, Дзікі Захад? Не, перыяд накаплення капіталу.

**А. Палынскі.**

## Гонар і боль афганцаў

Перад наступленнем перапынку ў рабоце чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі надышоў перапынак і ў мітынговых страсцях на пляцы Незалежнасці. Апошнімі вылучылі свае патрабаванні былыя воіны-афганцы і маці загінуўшых...

Фота С.Брушко.




## ДА ЎВАГІ АБІТУРЫЕНТА!

Беларуская ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі і ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга сельскагаспадарчая акадэмія праводзіць 18 красавіка 1992 года Дзень адкрытых дзвярэй.

*Наш адрас:*

*Магілёўская вобл., г.Горкі.*

Рэгістрацыя абітурыентаў у Палацы культуры акадэміі. Тэлефоны для даведак: 2-17-70, 2-19-84.

Сардэчна запрашаем!

# ЗАЯВА ўдзельнікаў сустрэчы прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый моладзі Беларусі

Разумеючы ўсю складанасць працэсаў, якія адбываюцца зараз у нашай краіне, і ў асноўным падтрымліваючы намаганні кіраўніцтва рэспублікі не дапусціць канчатковага эканамічнага і палітычнага крызісу на Беларусі, удзельнікі сустрэчы прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый моладзі не могуць пагадзіцца з тым, што ў апошнія месяцы значна знізіўся рэальны ўзровень жыцця насельніцтва, асабліва малазабяспечаных людзей, і моладзі ў прыватнасці. Пад выглядам пераходу эканомікі рэспублікі да рыначных адносін прадпрыемствы бескантрольна падымаюць кошт на сваю прадукцыю і тавары народнага спажывання. Нараджаецца моцная хваля інфляцыі. У рэспубліцы ўсё вастрэй адчуваецца параліч улады. Узрастае колькасць беспрацоўных, сярод іх у асноўным — моладзь. У асяроддзі маладых усё часцей і мацней гучаць пытанні: "Як пражыць у такіх умовах і як жыць далей?". Многія страцілі надзею на лепшую будучыню і сёння не лічацца ні з мараллю, ні з законамі. На жаль, такіх становіцца ўсё больш. Адсутнасць жылля, дарагоўля, беспрацоўе — усё гэта можа прымусіць моладзь пайсці на антыканстытуцыйныя дзеянні дзеля вырашэння сваіх праблем.

Мы афіцыйна заяўляем, што не з'яўляемся прыхільнікамі такіх дзеянняў. Мы жадаем аднаго: жыць у дзяржаве, у якой выконваецца Канстытуцыя і законнасць, гарантуюцца ўсе правы яе грамадзян на цывілізаванае жыццё.

Мы звяртаемся да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і патрабуем неадкладна зрабіць канкрэтныя крокі па рэалізацыі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі і забеспячэнню сацыяльных гарантый моладзі, і ў першую чаргу:

прыняць Закон "Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Рэспубліцы Беларусь";

стварыць рэспубліканскі дзяржаўны орган па справах моладзі.

На наш погляд, гэта дазволіць афіцыйна вырашаць пытанні дзейнасці нашых арганізацый і праблемы моладзі на адпаведным узроўні.

**Беларуская студэнцкая асацыяцыя фізічнай культуры і спорту.**

**Рэспубліканскі дабрачынны цэнтр маладзёжных ініцыятыў "Дапамога".**

**Міжнародная грамадская арганізацыя "Кая".**

**Аргкамітэт па стварэнню нацыянальнай скаўцкай арганізацыі Беларусі.**

**Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА.**

Гісторыка-патрыятычнае аб'яднанне моладзі "Чырвоны Жонд".

Саюз моладзі Беларусі.

Фонд міжнароднага маладзёжнага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь.

Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя.

Беларускі дабрачынны фонд культурных ініцыятыў "Дзянніца".

Беларуская асацыяцыя міжнароднага супрацоўніцтва "Будучыня".

Асацыяцыя маладых палітычных дзеячаў.

# Тры палёты паміж Мінскам і Франкфуртам-на-Майне

29 сакавіка 1992 года — з уводам у дзеянне летняга раскладу авіякампанія "Дойчэ Люфтганза АГ" наладзіла прамы паветраны мост паміж Мінскам і Франкфуртам-на-Майне. Такім чынам, адкрыты новы маршрут Люфтганзы ва Усходнюю Еўропу.

Тры разы на тыдзень — па аўторках, чацвяргах і нядзелях — "Боінг-737" з сінім жураўлём на жоўтым фоне звязвае цяпер сталіцу Беларусі з метраполіяй на Майне. З дапамогаю гэтай сучаснай мадэлі самалёта германская авіякампанія прапаноўвае сваім пасажырам высокі ўзровень сервісу па трох класах абслугоўвання. Разам з нармальным тарыфам па першаму і бізнес-класам выкарыстоўваецца льготны тарыф па турыстычнаму класу. Эканамічны тарыф складае 661 амерыканскі даляр, а суперэканамічны тарыф — усяго 454 даляры.

Люфтганза адкрыла новы маршрут у Мінск з мэтай яшчэ больш узмацніць свае пазіцыі на Усходняй Еўропе як авіякампаніі нумар адзін і прапануе зацікаўленым фірмам і замежным інвестарам магчымасць паскорыць эканамічнае развіццё краіны праз супрацоўніцтва з Люфтганзай пасля ўключэння гэтага рэгіёна ў яе сусветную сетку паветраных зносін, якая ахоплівае 182 пункты ў 73 краінах. Люфтганза хацела б таксама зрабіць свой пасільны ўклад у пашырэнне рознабаковых асабістых кантактаў і сустрэч паміж жыхарамі Беларусі і Германіі.




На ЗДЫМКАХ:
1. У паветры – "Люфтганза".
2. Прадстаўнік "Люфтганзы" у Мінску спадарыня Зюрдзік.
3. Экіпаж "Боінга-737".





# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Леанід ДАШУК, міністр юстыцыі Рэспублікі Беларусь:*



— Найбольш за ўсё нас хвалюе зараз судова-прававая канцэпцыя, прыняцце якой Вярхоўным Саветам павінна вызначыць напрамак рэформаў, ролю органаў юстыцыі. Мы бачым яе так: незалежны суд, як гэта і трэба прававой дзяржаве, моцнае Міністэрства юстыцыі, як каардынатар новай прававой палітыкі. Гэтую канцэпцыю рыхтуюць дэпутацкая камісія пад кіраўніцтвам Д.Булахава, рабочая група, у якой прымаюць ўдзел і прадстаўнікі нашага міністэрства. Не ведаючы гэтай канцэпцыі, мы не можам запускаць у дзеянне законы, ствараць кодэксы, няма зараз і Палажэння аб міністэрстве. У грамадстве ж мяне вельмі хвалюе рост злачыннасці. Ні ў каго не выклікае спрэчак, што трэба прымаць тэрміновыя меры па барацьбе з ёй. Стрымліваюцца эканамічныя рэформы — асобы, якія удзельнічаюць у прыватызацыі, у бізнесе, непакояцца за захаванне сваёй маёмасці. Злачыннасць — фактар, які стрымлівае прагрэс...

*Міхась САВІЦКІ, народны мастак Беларусі:*



— Што непакоіць? Тое, што адбываюцца перамены, якія нічога не мяняюць. Як кіравалі камуністы — так і кіруюць. Усе 74 гады яны ігнаравалі ісціну: культура — аснова грамадскага развіцця. Менавіта культура найбольш яскрава выражае памкненні. І зараз гэтая важнейшая галіна чалавечай дзейнасці ігнаруецца, як і раней. Я не бачу змен у кіраванні дзяржавай. Наогул, я не палітык, палітычнай дзейнасцю ніколі не займаўся. Я займаюся сваёй справай — мастацтвам. Як мастак, павінен ствараць тое, што нясе чалавецтву маральнае здароўе... Хаця ніякай цікавасці ў людзей да гэтага няма. Я мала знаёмы з палітыкай. Але, як вы, відаць, ведаеце, сучасная навука сцвярджае: у двух паўшар'яў галаўнога мозга чалавека розныя функцыі. Адно "адказвае" за логіку, другое — за творчасць. Вось так і атрымліваецца, што ў мастакоў, напрыклад, менш развіта лагічнае паўшар'е, у навукоўцаў — мастацкае, а ў палітыкаў недаразвітыя абодва...

*Кузьма ШАПЛЫКА, старшыня калгаса "Чырвоная змена" Любанскага раёна:*



— Хваліцца асабліва няма чым. Мяняць трэба гэтую сістэму, пераходзіць на гасразлік. Мы, напрыклад, некалькі ферм перавялі ўжо... А ў агульным плане, што хвалюе,— адсутнасць дысцыпліны, адсутнасць рычагоў, з дапамогай якіх можна кіраваць, і кіраваць менавіта працэсам стварэння. Атрымаў у нас чалавек кватэру, крыху папрацаваў — ды сышоў ад нас. І ўжо яго не выселіш. А хай бы ён тую кватэру купіў! Зараз шмат каму трэба дапамагаць, нават Гарбачову і таму грошай на шклянкі ды талеркі не хапае... Не адчуваю, што будзе лягчэй, але — спадзяюся. Як без гэтага! Трэба чакаць лепшага. Але... Завезлі тры з паловай тоны бензіну — трыццаць адна тысяча рублёў! А нам гэтага паліва, дай Бог, каб хапіла... А сяўба ідзе. Нават не рыхтуемся — ужо пачалі пасяўную. Аўса 50 гектараў пасеялі, ячменю... На каго зараз спадзявацца? На сябе! Хіба на Вярхоўны Савет? Дык хай ён спачатку ўласную дысцыпліну падыме, тады штосьці і зрушыцца...

*Смяецца той, хто...*

## ЦІХАЙ САПАЙ

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, пад час фарміравання парадку ейнай работы, прагучала, у які ўжо раз, прапанова аб стварэнні Камітэта па марскіх справах. Лёгкі смех пырхануў па дэпутацкіх шэрагах як сведчанне крамольнасці нават самой ідэі ў перыяд "глыбокага крызісу і сацыяльных узрушэнняў". Не выклікала спагады й прапанова абмеркаваць на бягучай сесіі стварэнне ў Брэсце вольнай эканамічнай зоны. Абедзве адрынутыя прапановы, якія сыходзілі: першая — ад апазіцыі БНФ, другая — дай Бог памяці, здаецца, ад прэм'ера В.Ф.Кебіча, напаткаў агульны лёс — сталіся адрынутымі. У гэтым іх роднаснасць.

Але абодва захады, безапеляцыйна адхіленыя законатворцамі, на справе ўжо крок за крокам ажыццяўляюцца. Так, на сённяшні дзень брэсцкія ўлады абмазгоўваюць мажлівасць стварэння грузавога порта на рацэ Буг. Буг упадае ў Віслу, а Вісла (такая малайчына!) уліваецца ў Балтыйскае мора. Берасцейцы, пэўне, чакалі-чакалі ды ўсе, як кажуць, чаканкі паелі, бо ціхай сапай без бюракратычных благаславенняў, ствараюць перадумовы не толькі для рачнога флоту (з выхадам да мора), але і свабодную эканамічную зону.

А дэпутаты ўсё смяюцца. У адным з вайсковых законапраектаў, дзеля паралелі, адпаведная камісія побач з сухапутнымі званнямі пералічыла чыны Ваенна-Марскіх Сілаў, ажно да самых адміралаў. Высокаму сходу зноў *стала весела. Быццам ён прачы*таў услых, цяпер ужо акрэдытаваную пры Вярхоўным Савецё, газету "Анекдоты". Між тым, марскія прадукты для радыяцыйна забруджанай Беларусі пападнейшаму ніхто не збіраецца дарыць, таму смейцеся, спадары...

З сябе. Сцеражыцеся толькі, каб пасля гэтага смеху не смяяліся вашыя наступнікі, дый не з'яўляліся анекдоты ў прыгаданай газеце.

*З нагоды 1-га красавіка*

## АБВЕСТКА

"ПАС" праводзіць конкурс паміж палітычнымі партыямі, грамадскімі рухамі, суполкамі, згуртаваннямі, задзіночаннямі, прафесійнымі саюзамі на самую красамоўную, поўную самых зіхоткіх, неверагодных перспектыў, самых шчодрых абяцанняў праграму выхаду з крызісу. У конкурсе могуць узяць удзел парламент і ўрад. Чакаем вашых прапаноў.

Аргкамітэт.







# ДЗЕНЬ ВОЛІ-92

## "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

Чым з'яўляецца Вільня ў культурным жыцці беларусаў? Ці можа быць чужым для нас горад, у якім выдаецца "Нашая ніва", дзе па-беларуску выходзяць у эфір праграмы радыё і тэлевізіі, дзе, як і сотні гадоў таму, на вуліцах можна пачуць беларускую гаворку.

25 сакавіка ў Вільні ўпершыню афіцыйна адзначалі Дзень Волі, які стаў першым з Дзён беларускае культуры ў Літоўскай Рэспубліцы. Увечары 25 сакавіка ў Віленскім драматычным тэатры ішлі "Тутэйшыя" ў пастаноўцы купалаўцаў. Афішамі, надрукаванымі кірыліцай і лацінкаю, быў заклеены ўвесь горад. У запоўненай дарэшты зале гучалі беларуская, літоўская, расейская мовы – тут сабраліся ўсе тыя, ад каго залежыць лёс беларушчыны ў Літве і захаванне гістарычнае місіі Вільні як сталіцы трох народаў – літоўскага, беларускага і польскага. На ўрачыстасці прысутнічалі і выступілі з кароткімі прамовамі Вітаўтас Ландсбергіс і Станіслаў Шушкевіч, са сцэны прагучалі гімны абедзвюх дзяржаў. Дарэчы, вялікай нечаканасцю для большасці прысутных было тое, што замест дагэтуль не скасаванага "Мы, беларусы, з братняю Руссю..." аркестр выканаў Купалава "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

На наступны дзень, 26 сакавіка, у зале выставаў экспанаваліся творы мастацкай суполкі "Пагоня" з Мінску, сярод удзельнікаў якой былі Мікола Купава, Алесь Марачкін, Яўген Кулік ды іншыя. Не меншае ўражанне, чымся сама выстава, на яе наведвальнікаў зрабіла выступленне фальклорнага гурта "Ліцьвіны".

Наступны дзень свята быў апошнім. На развітанне перад віленчукамі выступіў мінскі хор "Унія".

Дні беларускай культуры ў Вільні, "Тутэйшыя" на сцэне буйнейшага тэатра... Можна спадзявацца, што гэтыя тры кароткія дні сталі падзеяй не толькі культурнага, але й нацыянальнага жыцця і беларусаў, і літоўцаў, і, можа, тых, хто дагэтуль лічыць сябе "тутэйшым". Літва падае нам прыклад: кожны народ моцны ня толькі сваёй дзяржаўнасцю, але і спрыяннем іншым народам, складаючым у гэтай дзяржаве меньшасць. Традыцыя добрых стасункаў двух народаў атрымала свой працяг.

НА ЗДЫМКАХ:

* Станіслаў ШУШКЕВІЧ сярод актывістаў Віленскага беларускага руху.
* Мікола КУПАВА і Уладзімір ПУЗЫНЯ цярпліва чакаюць адкрыцця выставы "Пагоні".
* Беларусачкі з Вільні.

Нататка і фота Ул.ПАНАДЫ.

*Прапановы Шушкевіча "зарэзалі" дэпутаты*

## Лепш позна, чым ніколі? Не, лепш раней, чым пазней

Яшчэ год таму парламенцкая апазіцыя прапаноўвала звярнуць увагу на ейны праект Закона аб мясцовым самакіраванні, дзе старшыні Саветаў усіх узроўняў мелася выбіраць прамым і тайным галасаваннем. Але Станіслаў Шушкевіч тады лічыў за найпершае — правядзенне рэарганізацыі Вярхоўнага Савета Беларусі, за наступнае — пераўтварэнне мясцовых Саветаў. І вось калі Старшыня ВС РБ "саспеў" і ўжо на бягучай сесіі з ягоных вуснаў сышла прапанова пра абранне мэраў усеагульным і тайным галасаваннем... дэпутаты ягоную прапанову "зарэзалі". Не прайшла й Шушкевічава спроба вынесці на разгляд шаноўнага заканадаўчага спадарства пытанне пра сумяшчэнне дэпутатамі Вярхоўнага Савета заканатворчай дзейнасці з удзелам у выканаўчых структурах.

Калі на першую прапанову не дадзена згоды, бо цяпер ужо не толькі Шушкевіч, але й увесь дэпутацкі корпус чакае рэфармацыі Вярхоўнага Савета, то другая прапанова натыкнулася на адмову па іншай прычыне. 88 дэпутатаў парламента сумяшчаюць несумяшчальнае: "тварэнне" законаў і іх выкананне. Дакладней, галасуюць у Вярхоўным Савеце і атрымліваюць грошы за пасады ў выканаўчых камітэтах. Яны — самі сабе і заканатворцы, і выканаўцы ўласных законаў. Раздзяленне з заканатворчай і выканаўчай уладаў — адна з ключавых перадумоў стварэння прававой дзяржавы.

Пытанне пра дэмакратычнае абранне мэраў ізноў усплыло 30 сакавіка на сустрэчы Станіслава Шушкевіча са старшынямі гарадскіх Саветаў, якія з'ехаліся ў Мінск па ініцыятыве Саўміна, каб, як казалі раней, абмяняцца вопытам, дый падвысіць кваліфікацыю. І спадару Шушкевічу прыйшлося разводзіць рукамі — не прайшла, маўляў, прапанова пра абранне старшынь новым шляхам. Не ведаю, ці засмуціла гэта прысутных: бо самі яны ўжо абраныя на адпаведных сесіях і калі б парламент схіліўся да абрання старшынь Саветаў новым спосабам, пэўне, некаторым "ужо абраным" прыйшлося б пакінуць свае крэслы. Выбаршчыкі знайшлі б ім больш вартую замену.

*Мы звярнуліся ў парламенцкую камісію па нацыянальнай бяспецы з пытаннем: "Як вядзецца вывад вайскоўцаў — грамадзян Беларусі з рэспублік Закаўказзя і Малдовы?*

Нагадаем, што парламентам на бягучай сесіі была прынята пастанова, на якой усе вайскоўцы тэрміновай службы, беларусы, павінны быць адкліканы з рэгіёнаў былога СССР, дзе сёння фактычна ідзе вайна. На нашае пытанне адказаў Леанід Прывалаў, дэпутат, намеснік старшыні прыгаданай камісіі.

– На жаль, хоць і прынята адпаведная пастанова, але ніводны беларус з небяспечных рэгіёнаў на вярнуўся дахаты. Пакуль што ствараецца спецыяльная камісія, якая паедзе, як кажуць, на месца і будзе там рыхтаваць адпраўку нашых хлопцаў на радзіму. Па папярэдніх падліках, у Закаўказзі праходзяць тэрміновую службу каля 950 беларусаў, дакладней, згодна з фармулёўкай пастановы Вярхоўнага Савета, "асоб, якія прызваны з тэрыторыі РБ". Аднак адначасна ўзнікла пытанне, як жа быць з беларусамі, якія прызваны ў войска па-за межамі рэспублікі, напрыклад, з расейскіх ПТВ, ВНУ, і да т.п.? У аддзеле кадраў перабіраюць уліковыя карткі, "шукаюць" вайскоўцаў-беларусаў. Калі ж урэшце бацькі ўздыхнуць з палёгкай? Калі вернуцца на радзіму з "гарачых" раёнаў іхнія сыны?

P.S. Дарэчы, колькі грамадзян Беларусі праходзяць вайсковую службу ў Малдове, дакладна не вядома. Затое беспамылкова можна вызначыць іншае: прамаруджанне ў гэтай справе можа каштаваць камусьці жыцця.

## "Беларусь хрысціянская, нацыянальна свядомая, сялянская"

*"Мы рушым, каб з крыжа*
*Айчыну нам зьняць"*
*Барбара Рысь*

Пра гэта мала пісалі. Падзея не атрымала належнай увагі прэсы, а праз яе — грамадскасці. Запаўняем інфармацыйны прабел. Нагадваем, што сакавіцкімі днямі ўтворана Кааліцыя паміж трыма палітычнымі партыямі — БХДЗ (Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасцю), БСП (Беларускай сялянскай партыяй), НДПБ (Нацыянальна-дэмакратычнай партыяй Беларусі). Наша газета, дарэчы, звяртала ўвагу ў сваіх артыкулах на кожную з пералічаных партый пад час іхняга стварэння. Варта прыгадаць інтэрв'ю з сябрам Управы БХДЗ паэтам Зьнічам — "Я ахрышчу КПСС!", аповед пра БСП — "Усе рэвалюцыі адбываюцца на зямлі", і ўрэшце гутарку з прадстаўніком НДПБ — "Партыя + партыі = ?". Такім чынам, як бачыце, мы маем няхай сабе і сціплае, але ўсё-такі права сказаць — пішам гісторыю сучаснасці.

Вернемся да наваствортанай кааліцыі. У ёй яскрава сышліся тры асноватворныя ідэі: вера ў Бога, нацыянальнае адраджэнне, дбайнае гаспадаранне на роднай зямлі. Не могуць пакуль што ўстаноўцы кааліцыі выхваляцца шматлікімі шэрагамі сваіх партый, бо і БХДЗ, і НДПБ, і БСП — досыць маладыя. Таму ўпаўне зразумела памкненне кожнай з партый надаць сабе дадатковую моц яднаннем з іншымі. Каб саюз атрымаўся раўнапраўным і не займеў рысаў своеасаблівай партыі "авангарднага тыпу", найлепшая таму зарука — прыкладна аднолькавая ніша, якую займаюць з'яднаныя партыі ў сацыяльна-палітычным жыцці Рэспублікі. Што ў прыгаданым выпадку якраз ёсць.

Дарэчы, стваральнікі кааліцыі — БХДЗ, НДПБ, БСП — падпісаліся пад Супольнай заявай аб правядзенні рэферэндуму і ўваходзяць у АКК — Антыкрызісны камітэт. Калі ж збор подпісаў, насуперак перашкодам, скончыцца рэферэндумам, а пасля і новымі выбарамі, то ўтворанаму трыўмвірату будзе намнога лягчэй весці перадвыбарную барацьбу і займець сваіх прадстаўнікоў у будучым парламенце.

І яшчэ адна акалічнасць. Агульнавядомы міжнародны статус хрысціянскіх дэмакратаў. Гэта даволі аўтарытэтная сіла ў вачах усяго свету. Таму Беларуская ХДЗ мае больш шанцаў стасавацца з міжнароднай грамадскасцю, чым тая ж Сялянская партыя. Напрыклад, спікер фракцыі ХДЗ-ХСС германскага бундэстага па праблемах абароны і бяспекі пажадаў у час свайго візіту набыць уяўленне пра сацыяльна-палітычнае жыццё Беларусі. З кім сустрэўся шаноўны спадар Вільц? Зразумела, з сябрамі Управы БХДЗ, наскімі хрысціянскімі дэмакратамі. Лірычным жа фіналам насычанага палітыкай паведамлення паслужыць верш на стварэнне кааліцыі паэта Зьніча.

8 мільёнаў... Гэта нямала
...душы пакласці — за другі! —
новая з л у ч н а с ц ь у свеце
паўстала:
Сілка — Астапенка — Лугін...

Алена АГІБАЛАВА.

Жыве Беларусь!
З Хрыстовай малітвай і верай

Ад БХДЗ — Пятро Сілка
Ад НДПБ — Анатоль Астапенка.
Ад БСП — Яўген Лугін

У Менску, 17 сакавіка 1992г.

*У нашай рэспубліцы працэс прыватызацыі толькі пачынаецца і, мяркую, будзе цікава зазірнуць у сумежную дзяржаву (Польшчу) і асэнсаваць ход прыватызацыі, якая ўзяла там свой старт 1 студзеня 1990 года. Менавіта тады эканамісты і распрацоўшчыкі польскай праграмы прыватызацыі сцвярджалі, што ўжо ў 1994 годзе структура польскай эканомікі будзе блізкай або нават падобнай да гаспадарчых структур краін Захаду. Яны выступалі за метады хуткага і радыкальнага пераходу ад эканомікі дзяржаўнага, адміністрацыйна-каманднага тыпу да рыначнай ("шокавай тэрапіі").*




Нагадаем, што той год быў нетыповым: рэфарматары толькі намацвалі брод, па якім належала перайсці з сацыялістычнага берага на капіталістычны.

Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Польшчы падвяло папярэднія вынікі сацыяльна-эканамічнага становішча краіны ў 1991 годзе. У сувязі з гэтым на прэс-канферэнцыі для польскіх і замежных журналістаў кіраўнік статупраўлення Б.Выжнікевіч адзначыў, што мінулы 1991 год быў годам вялікіх перамен. Аднак, ён падкрэсліў гэта, адназначнай ацэнкі сацыяльна-эканамічнага становішча ў краіне няма і не можа быць — працэс рэформ у эканоміцы ідзе цяжка і не дапускае спрашчэнняў. Такая няпэўнасць! А 1991 г. — другі год, калі Польшча ўзяла рэзкі курс на фарміраванне рыначнай эканомікі і стварэнне палітычных і сацыяльных структур, тыповых для заходняга свету, з якім эканоміка нашага суседа дастаткова шырока ўстанавіла сувязі. Бо толькі з краінамі АЭС польскі гандаль склаў 55,3 працэнта ад яго агульнага аб'ёму. Гэта, хутчэй за ўсё, дало магчымасць Польшчы захаваць станоўчае гандлёвае сальда ў 2,1 трыльёна злотых (каля 200 мільёнаў долараў) у мінулым годзе. Гандлёвая актыўнасць садзейнічае прытоку замежных інвестыцый у польскую эканоміку. А гэта ўжо вынік рэалізацыі ідэй эканамічнай рэформы і праграмы "шокавай тэрапіі", аўтар якой Лешак Бальцаровіч нядаўна быў запрошаны Б.Ельцыным у Расію для кансультацый.

Аднак, давайце больш дэталёва азнаёмімся са статыстычным аналізам двухгадовай практыкі прыватызацыі і раздзяржаўлівання польскай эканомікі. У прамысловасці адзначаецца небывалы рост прыватнай вытворчасці, якая ў 1991 годзе павялічыла выпуск прадукцыі на 25,4 працэнта. Такому паказчыку можа пазайздросціць нават Японія. Аднак, па прычыне нязначнасці дадзенага сектара вытворчасці, гэта не адбілася на агульным становішчы эканомікі. Вытворчасць прамысловай прадукцыі ў цэлым, гаворыцца ў эканамічным аналізе Галоўнага статыстычнага ўпраўлення, скарацілася ў параўнанні з 1990 годам на 11,9 працэнта. Многія эканамісты лічаць гэта вынікам перш за ўсё няўвагі ўлад, якія сфарміраваны з прадстаўнікоў "Салідарнасці", да дзяржаўнага сектара і нерэальнай стаўкі на прыватызацыю як панацэю ад цяперашніх бед.

Імкненне польскіх улад як мага хутчэй прыцягнуць у эканоміку заходні капітал пакуль што не дае чаканых вынікаў. Удзельная вага прадукцыі польскіх прамысловых прадпрыемстваў, якія скарыстоўваюць замежны капітал, у агульным аб'ёме вытворчасці, павялічылася з 2,4 да 5,3 працэнта, а ў прадукцыі замежных прадпрыемстваў, якія дзейнічаюць у Польшчы, знізілася з 1,8 да 1,6 працэнта. Сваю незадаволенасць такім нязначным прытокам замежнага капіталу, на які ўскладалася вялікая надзея, выказаў прэзідэнт Польшчы Лех Валенса ў нашумелым выступленні перад парламенцкай асамблеяй Савета Еўропы ў Страсбургу. "Менавіта Захад, — заявіў ён, — зарабіў на польскай рэвалюцыі. Мы былі добрымі, як інструмент для таго, каб разбурыць старую сістэму, якая пагражала Еўропе. А сёння вы страцілі сімпатыю да нас".

Аб'ём будаўніча-мантажных работ рэзка скараціўся пасля "шокавай тэрапіі" і ў мінулым годзе знізіўся яшчэ на 6,8 працэнта. Гэта тлумачыцца недахопам сродкаў у дзяржавы, прадпрыемстваў і насельніцтва, а таксама дарагоўляй будаўнічых матэрыялаў.

Толькі на 2 працэнты знізіўся аб'ём вытворчасці ў сельскай гаспадарцы. У мінулым годзе сабрана 27,3 мільёна збожжа і 29 мільёнаў тон бульбы. Адзначаны рост пагалоўя жывёлы. Нязначнае зніжэнне сельскагаспадарчай вытворчасці тлумачыцца тым, што 80 працэнтаў гэтай галіны знаходзілася ў прыватных руках. Яе практычна не закранула прыватызацыя.

У цэлым падзенне вытворчасці Польшчы склала ў 1991 годзе 14 працэнтаў, а ў 1990 годзе — ужо 24. (Заўважым, што прамысловая вытворчасць краін СНД у 1991 годзе знізілася на 6,4 працэнта). Эканамічны спад выклікаў за сабою рост беспрацоўя. Толькі за 1991 год колькасць працаўладкаваных скарацілася на 7,7 працэнта. Польшча ўступіла ў новы год, маючы амаль два мільёны беспрацоўных, што ўдвая больш, чым было ў 1990 годзе.

У мінулым годзе на адно прапанаванае працоўнае месца прыходзілася 55 беспрацоўных мужчын і 115 беспрацоўных жанчын. Значную групу непрацаўладкаваных складаюць выпускнікі сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў, — іх зарэгістравана 220 тысяч. Сярэдні ўзрост беспрацоўных — 31 год. Людзі ва ўзросце ад 18 да 34 гадоў складаюць 64,5 працэнта ўсіх беспрацоўных. Такая афіцыйная статыстыка польскага рынку працы.

Эканамічны спад і беспрацоўе вельмі негатыўна адлюстроўваюцца на дзяржаўным бюджэце. У мінулым годзе ён быў зведзены з дэфіцытам у суме 30,6 трыльёна злотых (амаль 3 мільярды долараў). У асноўным даходы дзяржбюджэту фарміраваліся за кошт падаткаў з абароту (29,2 працэнта) і падаткаў з прыбытку (25,7 працэнта). Падатак з заработнай платы склаў 8,4 працэнта, падатак за асноўныя фонды — 5,1 працэнта, пошліны — 7,3 працэнта; падатак на звышнарматыўны рост заработнай платы — 11,8 працэнта; адлікі ад прыбытку Польскага нацыянальнага банка — 3,2 працэнта.

Уяўляе цікавасць і расходная частка бюджэту, 9,4 працэнта якога прыйшлося на датацыі прадпрыемствам, 13,9 працэнта — сацыяльнае страхаванне, 3,4 працэнта — расходы на знешні гандаль і пагашэнне пазык, 3 працэнты — субсідыі гмінам, 5,4 працэнта — зварот пазык банкам, 5,9 працэнта — расходы невытворчай сферы, 5,9 працэнта — інвестыцыі.

Польскія цэны на тавары народнага спажывання і паслугі, напэўна, пераклікаюцца з нашымі, такімі ж высокімі. У харчовай прамысловасці ў цэлым цэны падняліся на 40 працэнтаў. Аднак малочныя прадукты падаражэлі на 87,2 працэнта, мучныя вырабы — на 20—30 працэнтаў, мяса і мясныя вырабы — на 22,3 працэнта.

Сярод прамысловых тавараў: цэны на адзенне падняліся на 78,8 працэнта, абутак — на 73,4 працэнта, прадметы дамашняга ўжытку — на 76,5 працэнта, дамашнюю тэхніку і легкавыя аўтамабілі — на 20—40 працэнтаў. Плата за жыллё павялічылася ўдвая, электраэнэргію — на 147,4 працэнта, газ — на 369,6 працэнта, авіябілеты — утрая, праезд па чыгунцы — у два разы з лішкам.

Палітыка, накіраваная на падтрыманне высокіх працэнтных банкаўскіх ставак на ўклады ў злотых, адыграла важную ролю ў замацаванні нацыянальнай валюты. Той, хто меў суму злотых, эквівалентную 100 далярам, і на працягу двух год не мяняў яе на свабоднаканверсаваную валюту, а трымаў на тэрміновых укладах, то сёння на гэтую суму можа купіць у тры з паловай раза больш тавару, чым той, хто трымаў на рахунку, напрыклад, сто даляраў. Дзякуючы гэтай і іншым мерам пакупніцкая здольнасць даляра ў краіне складае толькі 28 працэнтаў ад таго, што было ў 1989 годзе. Цэны ў краіне выраслі на 70,3 працэнта, а заработная плата павялічылася толькі на 56 працэнтаў, даходы сялян — толькі на 3,4 працэнта, даходы прыватнага сектара (без сельскай гаспадаркі) — на 72 працэнты. Толькі сацыяльныя дапамогі (пенсіі, стыпендыі, дапамогі па беспрацоўю) павялічаныя на 139 працэнтаў, значна апярэджвалі рост цэн, але раслі яны з даволі нізкага ўзроўню.

Малады міністр планавання ў новым урадзе Ежы Эйсманту сённяшняе сацыяльна-эканамічнае становішча Польшчы характарызуе так: "Мы дасягнулі мяжы не толькі псіхалагічнай трываласці, але і мяжы фізічных або сацыялагічных магчымасцей пэўных груп насельніцтва. Нам трэба абавязкова змяніць курс".

Так, выбар аптымальнай мадэлі другога этапа рэформы з улікам інтарэсаў насельніцтва, а затым няўхільнае выкананне яе, мае рашаючае значэнне для сённяшняй Польшчы. Пошукі такой мадэлі гавораць аб тым, што эксперты Міжнароднага валютнага фонду, якія прымалі ўдзел у распрацоўцы плана эканамічных рэформ і прыватызацыі, не ўсё зрабілі, што залежала ад іх. Будзем спадзявацца, што гэта ўдасца зрабіць нацыянальным кадрам, новаму ўраду, які ўзначальвае Ян Альшэўскі.

Нам, эканамістам Рэспублікі Беларусь, неабходна дэталёва вывучаць усе зігзагі, зробленыя суседняй дзяржавай, каб не паўтарыць іх у практыцы нашых рэформ і перш за ўсё ў прыватызацыі, закон па якой мае намер прыняць беларускі парламент.

**Я.Друзік,
кандыдат
эканамічных навук.**



*Розгалас*

# ПАДЧАРКА ІДЭАЛОГІІ

**25 сакавіка — дзень, які беларусы ўсяго свету шануюць як найбольш значнае нацыянальнае свята — ДЗЕНЬ ВОЛІ — для многіх з нас застаецца невядомым. Чаму так здарылася? Відаць таму, што гісторыя доўгі час заставалася падчаркай ідэалогіі. Пра гэта разважае вядомы беларускі навуковец з Санкт-Пецярбурга Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ у сваім водгуку на артыкул "Ад неаліту да Галоўліту" ("ЧЗ", № 42 ад 14-20.10.1991 г.).**

Суадносіны між ідэалогіяй і гісторыяй? Што за пытанне! Ці ж не вядома, што ў нас і ў нашых "саюзнікаў" — Кубы, Паўночнай Карэі, тых, хто яшчэ не выйшаў з-пад ідэалагічнага наркозу сацыялізму, яны самыя блізкія. Гэта ж менавіта ў нас, згодна з акрэсленнямі савецкіх слоўнікаў, падручнікаў і дапаможнікаў, пануе "сапраўдна навуковая ідэалогія марксізму-ленінізму". Я не памылюся, калі сказаў, што пануе. Бо каштоўнасці, закладзеныя ў кнігах, якія мы чыталі, у той ці іншай ступені засвойваюцца, пакідаюць на нас свой адбітак.

Але не ва ўсіх мовах ідэалогія атаясамліваецца з навукай. У іншамоўных тлумачальных слоўніках падкрэсліваецца зваротнае. Французскі "Гран Рабер" сцвярджае: "Ідэалогія супрацьпастаўлена навуцы". Тое ж знойдзеце ў Оксфардскім слоўніку, у сучасным нямецкім "Дудэну". Але не ў нямецкіх "Вёртэрбухах" часоў Трэцяга Рэйха, таталітарызму.

Студэнтаў ВНУ ў нашай краіне навучалі невядомым у цывілізаваным свеце дысцыплінам — гісторыі ВКП(б), марксісцка-ленінскай філасофіі, палітэканоміі сацыялізму — яшчэ ў сталінскія часы. Пры брэжнеўска-суслаўскай рэсталінізацыі гэтага здалося ўжо мала. Дадалі навуковы камунізм, марксісцка-ленінскую эстэтыку, асновы навуковага атэізму. Выкладчыкі гэтых дысцыплін выконвалі функцыі ідэалагічных паліцэйскіх.

У адміністрацыйна-рэпрэсіўнай сістэме гісторыі адводзіцца роля апраўдання правамоцнасці ўлады, а вывучэнне мінулага зводзіцца да абавязковага мінімуму. Невыпадкова сістэма савецкай гуманітарнай адукацыі грунтавалася на прынцыпе: "Чым менш чалавек ведае, з тым большай ахвотай ён падпарадкоўваецца волі ўлад". Улады асцерагаліся нармальнай перадачы ведаў аб мінулым, фарміравання праз веды па гісторыі сістэмы грамадзянскага мыслення, умацавання ў свядомасці іерархіі падыходаў і ідэй, навучання павазе да мінулага і цярпімасці да іншых поглядаў. Уладары баяліся асэнсавання кожным чалавекам ягонага месца ў гісторыі і разумення таго, што ў мінулым было сапраўды добрым, а што дрэнным.

Прадстаўнікам таталітарызму гісторыя ў якасці навукі не патрабавалася. Задачы гістарычнай навукі зводзіліся да пацвярджэння палітыкі, таму гісторыкі мусілі рабіцца каментатарамі і ілюстратарамі афіцыйных поглядаў на падзеі мінулага. Сёмай музе — музе гісторыі Кліо даручалі мыць бруднае начынне чарговых гаспадароў і нават выціраць запэцканыя крывёю боты катаў.

У выніку шматгадовай адмоўнай селекцыі гістарычных кадраў гісторыю ахапіла хвароба дэпрафесіяналізацыі. Сыходзілі гісторыкі, што атрымалі класічную адукацыю ў дарэвалюцыйных універсітэтах і гімназіях. Іх месца займалі людзі, якіх выхавалі інакш, з упэўненасцю, што яны валодаюць вышэйшай, чым у буржуазных гісторыкаў, марксісцка-ленінскай адукацыяй. Гэта дае ім значную перавагу над магчымымі апанентамі. Як гісторык, які мае й медыцынскую адукацыю, я назваў бы такое мысленне расшчэпленым (хто ведае псіхіятрыю, успомніць хваробу, для якой характэрна такое мысленне). Інакш нельга было б растлумачыць становішча, калі, паводле падлікаў гісторыка І.Шаўчука[1], з ліку абароненых у 1961-1987 гг. 662 дысертацый па гісторыі Беларусі і КПБ каля 90 працэнтаў было прысвечана савецкаму перыяду гісторыі БССР, у тым ліку гісторыка-партыйнай тэматыцы — больш за 58 працэнтаў. І.Шаўчук падкрэслівае, што ў 70-я гады амаль 37 працэнтаў навуковых прац разглядалі розныя аспекты 7-й і 8-й пяцігодак развіцця народнай гаспадаркі, больш за 40 працэнтаў — 9-10-й пяцігодак.

Самае цікавае, што гэтыя дысертацыі не толькі прымаліся ўсур'ёз, але і адзначаліся дырэктарам Інстытута гісторыі АН БССР П.Ц.Петрыкавым і яго сааўтарам Ул.М.Міхнюком як "самастойныя даследаванні, у якіх ажыццёўлена тэарэтычнае абагульненне і рашэнне буйных праблем гістарычнай навукі".[2] На што адгукнуўся народны паэт Беларусі, прафесар Ніл Гілевіч, які палічыў ухваленыя кіраўніком гістарычнай навукі ў маштабе рэспублікі дысертацыі не болей за "звычайныя тэмы звычайных рабочых дакладаў на пасяджэнні гарсавета ці, можа, нават і Саўміна... Але прычым тут навука гісторыя?" І, прыводзячы канкрэтныя назвы і сутнасць доктарскіх і кандыдацкіх прац, якія хваляць афіцыйныя гістарыёграфы БССР, робіць высновы: "Такія пісаліся даследаванні,такія рыхтаваліся кадры вучоных. На вачах усяго грамадства, на ўзроўні здзеку не толькі з навукі, але і з усялякага разумнага сэнсу, ішла нечуваная прафанацыя навуковай дзейнасці".[3] Вось такім чынам партыйных прапагандыстаў залічвалі ў навукоўцаў.

Эклектыка, унутраная разарванасць стала хваробаю беларускай гістарычнай навукі. У працах гісторыкаў лёгка сумяшчаюцца ўзаемавыключныя паняцці. Тыповы прыклад: фармальнае прызнанне класавага падыходу пры разглядзе ўнутранага развіцця феадальнай Беларусі і пазакласавае апраўданне кожнай знешнепалітычнай акцыі вялікіх князёў, цароў і імператараў у дачыненні да Беларусі ў гэтых працах суіснуюць.

Гэта тлумачыцца навязанай беларускай гістарыяграфіі з пачатку 30-х гадоў ідэалогіяй нацыянал-бальшавізму, якая атрымана ў спадчыну ад манархісцка-клерыкальных дагматаў дарэвалюцыйных часоў. Гэта тыповая імперская дактрына, па якой гісторыя беларусаў і Беларусі разглядаецца ізалявана ад гісторыі іншых этнасаў і краін (апроч Расіі), як інтэгральная частка гісторыі адзінай і непадзельнай Расіі. Увесь перыяд мінулага Беларусі да прыяднання да Расіі разглядаецца як перадгісторыя, а існаванне ў межах чужой дзяржавы — як адзіны шанс выратавання ад знешніх і ўнутраных ворагаў. Дзяцей у школе вучылі таму, што сапраўдныя патрыёты — толькі тыя, хто любіць іншую радзіму, а калі нехта ўздумае любіць сваю гістарычную радзіму, значыцца той — беларускі нацыяналіст.

Давайце ж падумаем, як выйсці з цяжкага, крызіснага становішча, у якім апынуліся беларуская гістарычная навука і адукацыя гісторыі ў сярэдняй школе і ВНУ.

Тут якраз дарэчы параўнаць становішча роднай мовы і роднай гісторыі. За мову ўзяліся беларусы гуртам, стварылі Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. А што з гісторыяй? Таксама стварылі суполку. Але якую? Па вясне 1989 г. было створана Мінскае гарадское таварыства гісторыкаў. У Статуце таварыства зафіксавана ў якасці адной з задач, зусім як у часы Сталіна, "крытыка рэакцыйных і нацыяналістычных інтэрпрэтацый" гісторыі. А што разумеюць пад "нацыяналістычнымі інтэрпрэтацыямі гісторыі" людзі, выхаваныя на "Кратком курсе истории ВКП(б)" або на рэсталінізатарскіх ідэях. Русіфікаваны вобраз беларускай мінуўшчыны насаджаўся ў беларускіх ВНУ з дапамогай падручніка "История БССР" пад рэд.А.П.Ігнаценкі і В.Ул.Чапко (Мінск, 1981), а ў школах — з дапамогай такога ж падручніка Л.С.Абэцэдарскага і сааўтараў (у 1989 г.быў перавыдадзены нібыта новы падручнік тых жа сааўтараў, дзе месца Л.Абэцэдарскага заняў Э.М.Загарульскі, змест жа кніжкі захаваўся). Супрацьпастаіць моцнаму асяродку спаборнікаў па разгляду гісторыі Беларусі як гісторыі былога Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі (ці Саюза непарушнага рэспублік свабодных) невялікае, фармальна не звязанае (у адрозненне ад прыхільнікаў гісторыі Паўночна-Заходняга краю) кола гісторыкаў, частка прац якога выдадзена ў канцы 1991 года ў выглядзе зборніка "З гісторыяй на "Вы" (Мінск, Мастацкая літаратура).

Амаль адначасова з гэтым зборнікам у "Настаўніцкай газеце" з'явіўся цікавы матэрыял: "Канцэпцыя гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе Беларусі" (30 лістапада 1991 г.). Пачатак "Канцэпцыі" выклікае адабрэнне, бо супадае з думкамі гісторыкаў Беларусі нонканфармісцкага напрамку. Але... Але ў мяне, як у даследчыка гісторыі Беларусі (на працягу трыццаці з лішнім год) і выкладчыка гісторыі ў ВНУ (больш за дванаццаць год), узнікаюць сумненні ў адносінах да пэўных прапазіцый аўтараў канцэпцыі. Чаму? Таму, што яны прапануюць пераўтварыць кафедры гісторыі СССР у кафедры гісторыі славянскіх народаў у той час, калі распалася Вялікарасейская імперыя на нашых вачах, распаўся яе аналаг на Балканах — Югаславія, непапраўна згасла ідэя панславізму ці неаславізму пад агідай старэйшага брата — рускага этнасу ў Еўразіі, сербскага на Балканах. Вонкавы прынцып (паходжання, мовы) адзінства славянскіх этнасаў прадстаўлены ў канцэпцыі хутчэй за ўсё з-за лёгкасці, даступнасці падрыхтоўчага матэрыялу для выкладання. Бо асноўны масіў гэтай літаратуры — прысвечаны гісторыі Расіі, якая нам выкладалася як "Гісторыя СССР". Гісторыя некаторых славянскіх этнасаў пры гэтым будзе выкладацца згодна з састарэлымі, панславісцкага ўхілу двух- ці трохтомнікамі "Истории Польши", "Истории Болгарии", "Истории Югославии", "Истории Чехословакии", "Истории УССР" — адзначце — гісторыі не этнасаў, не дзяржаў. Значыцца, гісторыя этнасаў, падначаленых іншым дзяржавам (як і беларусы) — македонцаў, славенцаў, харватаў, славакаў, кашубаў, лужычанаў, будзе пакінутай за межамі выкладання, бо падобных выданняў па гісторыі гэтых этнасаў няма на рускай мове. А выкладчыкаў кафедраў гісторыі СССР на веданне моў, апроч рускай, ніколі не арыентавалі. Зноў жа, гісторыю беларусаў будуць вывучаць у кантэксце расійскай дзяржаўнасці. Затое гісторыю меншых этнасаў Еўропы, з падобным да беларусаў гістарычным лёсам, вывучаць у нас не будуць, хоць іх і лучыць унутранае падабенства. Дзіўным уяўляецца замоўчванне з-за гэтага нават гісторыі летувісаў, з якімі ў беларусаў адзіныя паходжанне, дзяржаўнасць і яе страта, барацьба супраць, па-перш, расійскай агрэсіі, а потым — імперскага ўціску.

Яшчэ не магу пагадзіцца з аўтарамі канцэпцыі ў тым, што яны прапануюць падручнікі і дапаможнікі па гісторыі ствараць "вопытным супрацоўнікам кафедраў гісторыі ВНУ", ім жа "пры ўдзеле спецыялістаў-грамадазнаўцаў з АН" даручыць павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў. Нібыта папярэднія падручнікі па гісторыі Беларусі, дысертацыі і манаграфіі рыхтавалі іншыя кадры! І пры гэтым можна спадзявацца на поспех у "беларусіфікацыі" гістарычнай адукацыі і навукі? У вяртанні гістарычнай праўды людзям?

Разумею, што пакуль няма на Беларусі паўнацэннай гістарычнай навукі. Таму зараз стварыць паўнацэнныя курсы выкладання гісторыі — у першую чаргу гісторыі Беларусі — у ВНУ і школах даволі цяжка. Цяжка, але магчыма. Магчыма, калі будуць складзенымі праграмы і падручнікі не з афіцыйнага, старога пункту погляду. Вядома, калі ў конкурснай камісіі застануцца выхаваныя на русіфікатарскіх, а не на нацыянальных ідэях "кадры", загартаваныя ў барацьбе супраць "нацыяналістычных і рэакцыйных ідэй", усё будзе па-ранейшаму. І ў фармальна суверэннай дзяржаве працягнуць вывучэнне гісторыі суседняга, а не свайго этнасу. Не выключаю і такі ход падзей.

## Прыватна длявыпускнікоў

Паколькі ў навуковай літаратуры не знайшлося азначэння сфарміраванай, паўнацэннай гістарычнай навукі этнасу, прыйшлося скласці яе вобраз па прыкладзе вопыту пабудовы гістарычнай навукі Расіі, Польшчы, Англіі, ЗША, Германіі, Францыі. Мяркуючы па гэтым вопыце, у склад такой навукі павінны ўваходзіць: тэорыя і методыка гістарычнага крыніцазнаўства на мясцовым матэрыяле; манаграфіі з беларускага пункту погляду (а не з чужога, як дасюль) па палітычнай, ваеннай, царкоўнай, дыпламатычнай, культурнай, навуковай гісторыі-этнасу; гісторыя дваранства, духавенства, гараджан этнасу; дапаможнік па археаграфіі, анамастыцы, генеалогіі, геральдыцы, дыпламатыі, гістарычнай геаграфіі, метралогіі, нумізматыцы, палеаграфіі, тэксталогіі, х445логіі — зноў жа абавязкова на мясцовым матэрыяле; біяграфіі асноўных дзеячаў грамадскага жыцця, культуры, навукі этнасу; біяграфічныя і геаграфічныя слоўнікі (апошнія з гістарычнымі аглядамі, назвамі мясцовасцей на сваёй мове і на мовах прышэльцаў і чужынцаў); гістарычныя бібліяграфіі, у тым ліку бібліяграфіі бібліяграфій; абагульняючыя беларускія працы па агульнай гісторыі, гісторыі асобных этнасаў, што жывуць на тэрыторыі Беларусі, суседзяў беларусаў; этнасаў з падобным да беларускага лёсам; і г.д.

Я пералічыў толькі мінімум патрэбнага для этнасу гістарычнага матэрыялу, якога, на жаль, пакуль што ў беларусаў не хапае.

Спатрэбяцца нам дыскусіі па тых пытаннях мінулага, па якіх доўгія гады навязвалася адзіная афіцыйная канцэпцыя. Маю на ўвазе пытанні аб ролі Полацкага княства і Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ў гісторыі стварэння беларускага этнасу і дзяржаўнасці альбо аб характары ўзаемаадносін між Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім і Польшчай у складзе Рэчы Паспалітай абедзвюх нацый. Патрабуе новага падыходу праблема ўзнікнення, існавання і гвалтоўнага скасавання царкоўнай уніі ў краі, паланізацыі і русіфікацыі беларусаў, ролі розных грамадскіх рухаў у жыцці Беларусі на працягу двух апошніх стагоддзяў, аднаўлення дзяржаўнасці Беларусі ў XX ст. і перакройвання яе межаў. Варта перагледзець жыццё Заходняй Беларусі ў 1918—1939 гг., характар беларускага супраціву чужынцам у XX ст., лёс беларускай эміграцыі і дыяспары і шмат яшчэ чаго.

У свеце дэпалітызацыі і дэідэалагізацыі навукі палічыў бы неабходным зрабіць верыфікацыю ці пацвярджэнне кампетэнтнымі камісіямі адпаведнасці навуковых ступеняў і званняў нашымі гісторыкамі і іншымі грамадазнаўцамі. Пры гэтым спатрэбіцца разгледзець унёсак аўтараў дысертацый і іншых навуковых прац згодна не з партыйнай прапагандай, а навукай. Будзе патрэбнай і служба працаўладкавання тых, хто па прафесійных якасцях не адпавядае патрабаванням навукі і яе выкладанню ў вышэйшых навучальных установах.

---

1 Шаўчук І. Навука ці паслугачка? Літаратура і мастацтва, 12.04.1991. — С.5.
2 Міхнюк В.Н., Петрыкаў П.Т. Историческая наука Белорусской ССР: 80-е годы. — Мінск: Навука і тэхніка, 1987. — С.106.

3 Гілевіч Н. Між былым і наступным. Літаратура і мастацтва. 6.10.1989. — С.12.



— Калі ж настане час непрыхаванай гістарычнай праўды?

# ГОРКА!

*Колькі сябе памятаю, у гэтым горадзе пілі. Піў сусед за сценкай і сусед суседа, і яго жонка, і іх суседзі з другога боку... Да страты памяці напіваліся ў доме насупраць, у дамах справа і злева. Па буднях і святах. Восенню, зімой, вясной і летам. Рэдка можна было прайсці па ашмянскаму гарадскому парку "Культуры і адпачынку" і не ўбачыць чалавека пад газетай на лавачцы, і не спатыкнуцца аб пустую бутэльку, і не нарвацца на дзесяціпавярховы мат.*

А калектыўныя паездкі ў в.Сухую на так званыя "святы песні"? Не, безумоўна, усё было здарова – камсамольская мастацкая самадзейнасць, конкурсы, спаборніцтвы, буфеты з цукеркамі і бутэрбродамі... Але ж і выпівалі колькі! Калі б тую тару ды за цяперашні кошт – велізарная лічба атрымалася б.

Пасля ўказа аб мерах па барацьбе з п'янствам таксама пілі. Таму што адначасова з талонамі на гарэлку прыйшла дэмакратыя, і выпадкі бытавога запою пачалі разглядацца ў працоўных калектывах як свабодны выбар грамадзяніна пры адсутнасці альтэрнатывы.

Здавалася, увядзенне талоннай сістэмы на спіртное заклікана было выбіць глебу з-пад ног алкаголіка і вярнуць яго ў сям'ю. Але – не. Паварушыўшы нешматлікімі звілінамі галаўнога мозга, п'яніцы знайшлі няхітры спосаб перакачвання бутэлек з кішэняў цвярозай часткі насельніцтва ў сваю кішэню. Бо піў і п'е ў большасці сваёй хто? Гегемон. Слесар, манцёр, будаўнік... Усё патрэбныя людзі, асабліва ў раённым цэнтры, дзе такога спецыяліста дачакацца – хутчэй у Маскву пешшу схадзіць. Так што ўказ указам, а сутнасць сярэднестатыстычнага жыхара Ашмян засталася ранейшай. Не верыце? Прайдзіце па вуліцы. Першае, што кідаецца ў вочы,– памятыя, запойныя твары мужчын, якія сапраўды спяшаюцца ў сям'ю, але толькі з той мэтай, каб дома "расслабіцца" па-сапраўднаму.

Апошні раз я была ў Ашмянах восенню мінулага года. Якраз заканчваўся капітальны рамонт дома, дзе жыве мая сямідзесяцігадовая бабуля-інвалід. З дзяцінства прывучаная да акуратнасці бабуля трапіла ў невыноснае становішча. Захляпаныя пабелкай і яшчэ бог ведае чым двор, ганак, вокны патрабавалі тэрміновай уборкі. Але работа яшчэ не была завершана. Заставалася ўцяпліць і замазаць рамы, пабяліць падмурак, пафарбаваць гарышча. Будаўнікоў чакалі кожны дзень. Яны, відаць, пра гэта здагадваліся. Таму і не ішлі. Усе разам. А забягалі паасобку. То адзін. То другі. Чакалі "астатніх" і праз паўгадзіны ціхенька знікалі.

Здагадлівая мая бабуля прыдбала са страшэннай пераплатай бутэльку гарэлкі. Справа зрушылася з мёртвага пункту (на восьмы дзень). З горам папалам два акны з шасці былі замазаныя. Будаўнікі зноў зніклі. І надоўга.

Пасля іх на дварры застаўся ляжаць сапраўдны скарб – мяшок цэменту, які бабуля зараз жа абмяняла ў суседзяў на "паўлітроўку". Разліваючы яе на дзве часткі і разбаўляючы дамашнім вінoм (каб было больш), прыгаворвала: гэта, маўляў, за ганак, гэта – за электраправодку.

Які ўсё ж далёкі быў ад сацыялістычнай рэчаіснасці булгакаўскі Воланд, што вучыў чароўную Маргарыту жыццёвай мудрасці: ніколі, маўляў, нічога не прасі. Асабліва ў тых, хто мацнейшы за цябе. Самі ўсё прынясуць і дадуць.

Як жа, прынясуць... Гэта можа ў высакародным і разумным грамадстве, дзе дапамога слабаму – доўг моцнага, пра цябе ўспомняць і паклапоцяцца. Для таго, каб нагадаць пра сваё існаванне на гэтым свеце, бабуля ўстае чуць свет і, управіўшыся па гаспадарцы, цягнецца, з перадышкамі і прыпынкамі, у домакіраўніцтва або райсабес і ў чарговы раз просіць не затрымлівацца з рамонтам – хутка зіма, а праз шчыліны ў вокнах за паўдня выдзімае ўсё цяпло... Калі вяртаецца дадому, доўга сядзіць на канапе і ціхенька плача – ад болю ў нагах, ад уласнай бездапаможнасці, ад таго, што "зажылася" на гэтым свеце, і няма ні патрэбных "сувязей", ні грошай, ні (самае страшнае!) талонаў на гарэлку – тыя, што былі, даўно пайшлі "у справу".

Стасі, як усе яе клічуць, за пяцьдзесят. Яна з той самай брыгады гора-будаўнікоў і прыходзіць да нас, спакусіўшыся рэшткамі добра вядомай вадкасці, што боўтае на дне бутэлькі, ды трохлітровым слоікам салёных агуркоў. Сваёй знешнасцю і сіплым, пракураным голасам Стася нагадвае мужыка. Справа ў яе ідзе спарней. "Я добрасумленная,– тлумачыць яна, стоячы на драбіне,– за проста так "беленькую" не п'ю. Праз якія-небудзь дзве гадзіны, схаваўшы ў надзейнае месца пакамечаную пяцірублёўку, Стася ўжо сядзіць за сталом. Няспешна і падрабязна распавядае пра сваё жыццё-быццё. "Грошы гэтыя я ад сына схавала і ад нявесткі. Сынок у мяне залаты, а нап'ецца – розум страціць, можа родную маці з дому на мароз выгнаць, а то яшчэ і з унукамі. Нявестка – гадаўка, усе грошы ў мяне выграбае, сыну на апахмелку. І не схаваеш – разам жывём, шафа адна, кухня агульная. Знойдуць усё роўна, апошнія капейкі забяруць".

"А што ж муж за вас не заступіцца?"– пытаюся. "Муж – аб'еўся груш. У начной змене ён. А калі не – дык разам з сынам п'юць. Вось, напрыклад, учора на памінках так набраліся – думала, да дому не дойдуць. Дарэмна ўзрадавалася..."

"На чыіх памінках?"

"А ў суседзяў нашых сынок памёр. Шэсць гадкоў усяго. Адмучаўся, даруй Божа... З нараджэння пакутаваў – таму што бязногі. На вуліцу яго ніхто не вадзіў. А кармілі суседзі. Бацькам – тым нават труну няма за што было купіць. Усё прапілі..."

Стася, калі ёй не перашкаджаць, можа расказваць пра сваё бязрадаснае жыццё бясконца. Мяне ўжо не здзіўляюць падобныя гісторыі – яны здараюцца тут на кожным кроку. Гляджу на яе і думаю: колькі ж іх у адным маленькім горадзе, такіх неабагрэтых, агрубелых, спітых "баб" без пэўнага ўзросту? Ніхто не лічыў, але, напэўна, многа. Розныя іх лёсы, ды ў рэшце рэшт аднолькавыя.

І атрымліваецца нейкае замкнёнае кола. У якім п'яніца нараджае п'яніцу і памірае ад рукі п'яніцы. Чалавек нараджаецца дзеля таго, каб піць. І ў выніку гэтага гіне, пражыўшы бессэнсоўнае жыццё і напладзіўшы да сябе падобных. Каго вінаваціць? Зноў сацыялізм, пры якім здаровы мужык на сваю зарплату, акрамя гарэлкі, нічога не можа сабе дазволіць? Магчыма. Але ж і пры сацыялізме не ўсе ператварыліся ў "быдла". Значыць, нешта яшчэ?

Тое, што ў маральным сэнсе мы даўно ўжо коцімся ў бездань, зразумела кожнаму. Праўда, у вялікіх гарадах, дзе ўзровень культуры усё-такі вышэйшы (наколькі ён можа быць вышэй за поўную адсутнасць такой), гэта "скочванне" не надта кідаецца ў вочы. Маленькія ж гарадкі даўно прывыклі да хамства і прыніжэння, да "нецэнзурных" лаянак, да брудных вуліц без святла... Як гаворыцца, да Бога высока, да цара далёка. А мясцовых "царкоў" па-ранейшаму займаюць іншыя праблемы.

Старая жанчына каля прылаўка (дзеянне адбываецца там жа) задае пытанне прадаўцу: колькі каштуюць дзіцячыя паўзункі? Тая ці то не чуе, ці то робіць выгляд, што занятая... Я падыходжу да гэтай жанчыны і адказваю: столькі і столькі. Бачылі б вы выраз яе твару! Разгубленасць, здзіўленне, замілаванне, удзячнасць... "Дзякую табе, дачушка. Дай Бог здароўя!" Як мала ім, аказваецца, трэба. Забітым, затурканым жыхарам невялікага райцэнтра. Крышачку спачування, адно ветлівае слова... Дэфіцыт дабрыні, памножаны на дэфіцыт культуры, робіць страшныя рэчы – прыніжае, знішчае чалавечую годнасць.

...Мая сяброўка дзяцінства Вольга, якая выкладае ў адной з Ашмянскіх школ этыку і псіхалогію сямейнага жыцця, падзялілася пры сустрэчы запаветнай марай – вырвацца з гэтага замкнёнага кола, паехаць куды вочы глядзяць... "Мы з дзяўчатамі-старшакласніцамі былі ў летнім працоўным лагеры. Уяўляеш – у іх няма элементарнага ўяўлення аб чысціні і ахайнасці! Не кажучы ўжо пра ўсё астатняе. Хлопцы пры іх мацюкаюцца, кураць, хамяць – хоць бы што. Брудныя кіпці лакам нафарбуюць, на нямыты світэр духоў нальюць – і задаволены".

Бяжы, Воля, бяжы. Цудоўна цябе разумею. Такіх, як ты, разумненькіх і ўзнёслых, нямнога знойдзецца ў тваім горадзе. Уладкаваць тут сваё асабістае жыццё шансаў мала. І што застанецца? Індыйскія фільмы ў адзіным гарадскім кінатэатры пад улюлюканне і свіст падрастаючай "змены", якой паказалі, як можна прыгожа жыць, але не растлумачылі, што трэба для гэтага зрабіць.

Толькі, магчыма, варта крыху пачакаць? Інакш, хто раскажа гэтым хлопчыкам і дзяўчынкам – заўтрашнім дарослым – пра любоў? Пра любоў да блізкага свайго, да старога, да дзіцяці, да жанчыны? Хто пасее ў іх іскру дабра? Хто выхавае пачуццё чалавечай годнасці? З нашым убогім узроўнем правінцыяльнай (і не толькі) культуры – хто?

Калі я гляджу на людзей з яўнымі прыкметамі дэградацыі, мне становіцца страшна. І горка. Ім усім здаецца, што яны нармальныя і што жыць па-іншаму проста немагчыма.

Наталля СТРАЛКОВА.



# ПАКАЯННЕ,

## АБО ЦІ ВЯДЗЕ НАША ДАРОГА ДА ХРАМА?

Сёння, калі ліквідавана дзяржаўная антырэлігійная ідэалогія, мы атрымалі магчымасць свабоднага самавыяўлення. У грамадстве шырока аднаўляецца хрысціянская культура: расце колькасць вянчанняў, хрышчэнняў і выкананняў памінальных абрадаў. Трэба адразу адзначыць, што працэс гэты складаны і супярэчлівы. Працяглая забарона хрысціянскай культуры прывяла да таго, што фарміраванне некалькіх пакаленняў моладзі адбывалася ў поўным адрыве ад яе і няведанні гэтай велізарнай спадчыны хаця б у агульных абрысах. Спасціжэнне асноў хрысціянскага светапогляду адбываецца ў апошні час рознымі шляхамі. Ствараюцца так званыя "нядзельныя" школы, у якіх за адной партай сядзяць побач бацька і сын, маці і дачка. У ліцэях і гімназіях распачаты курсы па гісторыі рэлігіі, вывучэнню Бібліі. Актыўна пашыраецца кола духоўных семінарый, узрастае колькасць духоўных акадэмій. Свой плён у далучэнне людзей да каштоўнасцей храмавай культуры ўносіць Цэнтральнае і рэспубліканскае тэлебачанне, транслюруючы ўсяночныя богаслужэнні, расказваючы пра гістарычны лёс выдатных архітэктурных ансамбляў, пра іх разбурэнне і знішчэнне, раскраданне інтэр'ера і пра цяжкія шляхі рэстаўрацыі.

Такі моцны імпульс адраджэння хрысціянства, як і іншых канфесій, можа стварыць уражанне абнадзейлівай перспектывы і паступальнага, арганічнага працэсу ўжывання шырокіх народных мас у хрысціянскі светапарадак. Разам з тым сапраўдная рэальнасць пранізана бясконцымі супярэчлівасцямі на глебе прыналежнасці да той ці іншай канфесіі. Адсутнасць неабходнага майстэрства весці дыскусію, скажэнне вартасных арыенціраў, абсалютызацыя старажытнасці і сапраўднасці толькі таго, а не іншага веравызнання ўжо прывялі да шматлікіх канфліктных сітуацый, асабліва паміж жыхарамі маргінальных зон (не ў сэнсе рэспубліканскіх, адміністрацыйных, а на сутыкненні тэрыторый, насельніцтва якіх выспавядае розныя рэлігійныя накірункі).

Заходнюю Беларусь, напрыклад, ахапіла хваля спрэчак паміж беларусамі-праваслаўнымі і беларусамі-католікамі (хоць апошнія настойліва называюць сябе палякамі). Дарэчы, польскія месіянеры праводзяць актыўную наступальную работу за паству. Часам справа даходзіць да абсурдных крокаў. Так, жыхары вёскі Вярэйкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці доўгі час вялі між сабой безвыніковую спрэчку аб тым, як аднаўляць напаўразбураны храм: ці як царкву, ці як касцёл.

Актывізацыя працэсаў аднаўлення дзейнасці царкоўных устаноў нечакана і востра ўзняла праблему далейшага лёсу царкоўнага жывапісу, касцёльнай скульптуры, званоў, якія ў 60—80-я гады былі па дамоўленасці з мясцовымі ўладамі вывезены ў рэспубліканскія і абласныя музеі. Вялікая калекцыя царкоўнай атрыбутыкі сабрана ў Музеі старажытнай беларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Рэспублікі Беларусь. На працягу апошніх 20-ці гадоў супрацоўнікі музея правялі франтальнае абследаванне ўсіх закрытых храмавых забудоў, што маглі, забіралі з сабой, праводзілі суцэльную кансервацыю, у межах сваіх магчымасцей рэстаўрыравалі найбольш цікавыя знаходкі. У выніку атрымалася багатая шматпрофільная экспазіцыя, гістарычную каштоўнасць якой адзначылі вядомыя мастацтвазнаўцы і культуролагі з многіх краін свету.

Але ў апошнія два-тры гады справа павярнулася так, што калекцыя музея апынулася пад пагрозай знікнення. Служыцелі культу разгарнулі масіраваную атаку на гэты і на многія іншыя музеі дзеля таго, каб вярнуць рэчы, якія калісьці ўпрыгожвалі мясцовыя храмы. Прычым наступ вядзецца без уліку этычных норм, да якіх служыцелі розных канфесій заклікаюць сваіх прыхільнікаў і прыхаджан. Забываюцца яны і на тое, што калі б не велізарныя намаганні навукоўцаў, то гэтыя скарбы агульначалавечай культуры ўжо даўно былі б знішчаны часам або прапагандыстамі атэістычнага светапогляду ці проста мясцовымі цемрашаламі (магчымы быў і яшчэ адзін варыянт лёсу — аказацца дзе-небудзь далёка за межамі рэспублікі). Усе разумеюць, што пытанне можа быць вырашана толькі з дапамогай спецыяльнага закона, які б адлюстроўваў у сабе ўсю складанасць існуючай сацыяльна-палітычнай сітуацыі і вызначыў магчымыя шляхі ўзаемаадносін дзяржавы і царквы на бліжэйшую перспектыву.

За адраджэннем хрысціянскай культуры неабходна бачыць яшчэ адну праблему, якая непарыўна звязана з палітыка-ідэалагічнай сітуацыяй у краінах СНД. Вялікая колькасць народа, расчараваная ў марксісцкай канцэпцыі развіцця грамадства (або якая па-сапраўднаму яе ніколі і не прытрымлівалася), сёння цягнецца да царквы. У аналагічнай сітуацыі апынулася польская грамадскасць у 1980 г., калі актыўную дзейнасць распачала "Салідарнасць" (хаця неабходна заўважыць, што ў Польшчы ўзаемаадносіны паміж касцёлам і дзяржаўнымі структурамі былі прынцыпова іншымі), гэта значыць, зварот чалавека да царквы стаў вынікам спецыфічнай рэакцыі часткі грамадства на доўгі час пануючай ідэалогіі.

Ужо сам факт вырашэння спрэчных пытанняў міжканфесіянальнага характару з дапамогай сілы сведчыць аб вялікіх хібах у працэсах фарміравання этнічнай самасвядомасці і адсутнасці фундаментальных даследаванняў па этнапсіхалогіі, культурнай антрапалогіі, этнасацыялогіі, этналінгвістыцы, сацыялогіі міжнацыянальных адносін. Наспела вострая неабходнасць пачаць даследаванні па стварэнню тыпалагічнай матрыцы або сістэмы маркёраў нацыянальных характараў, якія дапамаглі б у пэўнай ступені прагназіраваць магчымасць узнікнення рэальных канфліктаў у рэгіёнах са складанай этнічнай інфраструктурай і (на аснове аператыўных сацыялагічных звестак) вызначыць шляхі іх папярэджання.

Псіхалогія нашых узаемаадносін з навакольным асяроддзем зарыентавана на універсалізм стэрэатыпаў. З імі хутка звыкаюцца, непрыкметна робяць сваімі і на пэўны час адзіна магчымым крытэрыем адчування рэальнасці. Вось ужо некалькі год мы жывём пакаяннем, а галоўным пытаннем нашага ачышчэння стала гістарычнае, лёсавырашальнае пытанне: ці вядзе наша дарога да храма? Як жа магло здарыцца, што чалавек — дзіця свайго часу — ці то збіўся з гэтага шляху, ці то ў выніку створаных абставін не пажадаў пайсці дарогай вечнасці?

У сувязі з гэтым хацелася б аберагчы нашу свядомасць ад уяўлення, што фарміраванне чалавека павінна ісці выключна ў накірунку хрысціянскага светаўспрымання. Беларусы, як і іншыя славянскія народы, нягледзячы на тысячагадовую гісторыю хрысціянізацыі, да гэтага часу захавалі ў сваёй вуснапаэтычнай творчасці, абрадах, звычаях, павер'ях не проста рэлікты, а светапоглядную сістэму адносін да прыроды, якая папярэднічала монатэічнаму хрысціянству. Галоўныя святы народнага календара да нашых дзён адзначаюцца ў адпаведнасці са становішчам даючага жыццё Сонца. Сваім апанентам-славянам я хацеў бы задаць такое пытанне: якім чынам яны будуць паводзіць сябе ў сітуацыі (у дадзеным выпадку слушна падтрымаць сартраўскае вызначэнне свядомасці як сітуацыйнай), калі шлях да храма (вы едзеце туды вянчацца або пахрысціць дзіця) перабяжыць чорная кошка або конь пачне біць зямлю капытом?

На нашу думку, найбольш спрыяльнымі ўмовамі для духоўнага сталення будуць тыя, калі чалавек, ідучы ў храм, здалёк будзе бачыць водбліскі царкоўных купалаў, ярка асвечаных богам Сонца. Наўрад ці вынішчэнне язычніцтва як сімвала яднання людзей з прыродай будзе садзейнічаць фарміраванню духоўнай асобы, у цэнтры светапогляду якой будзе знаходзіцца ён сам.

Такім чынам, актыўнае адраджэнне двух найбагацейшых адгалінаванняў культуры — традыцыйнай і хрысціянскай — дасць магчымасць захаваць народу сваю спрадвечную этнічную непаўторнасць і самабытнасць, заняць належнае месца ў духоўнай спадчыне сусветнай цывілізацыі. Аднак дасягненне гэтай мэты магчыма толькі пры ўмове прынцыповых змен у стратэгічным накірунку жыцця грамадства, якое ў аснову паступальнага развіцця паставіць прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей.

І.Крук,
кандыдат
філалагічных навук,
вучоны сакратар
ІМЭФ АН
Рэспублікі
Беларусь.






*Паданні*

## Пра Браслаў

Некалі, даўным-даўно, сярод блакітных азёр, на вялікай гары стаяў прыгожы горад, умацаваны вежамі. А сярод горада ўзвышаўся замак. Жыў у тым замку багаты князь Дзвін. У бітвах ён заўсёды перамагаў ворагаў, усе ў замку дрыжалі перад ім. Багацце, слава, улада — усё ў яго было, але князь сумаваў. Усе ведалі: ён хмурны і злосны таму, што няма ў яго сына. Канчаўся слаўны род Дзвіна.

Была ў яго слаўная дачка Дрыва, якую кахалі тры маладыя князі — Снуд, Ноў і Брас.

Аднойчы князь Дзвін са сваёй дружынай адправіўся ў паход. Дома засталася Дрыва са сваёй маці Друйкай. Дрыва пацяшалася з маладых князёў. Яна сказала князям, кожнаму паасобку, што пойдзе за таго, хто свой меч у саперніку пакіне. Снуд і Ноў вырашылі забіць Браса. Яны наладзілі засаду на дарозе, па якой Брас павінен быў везці падарункі для князёўны. Брас нібы прадчуваў нядобрае і з падарункамі да Дрывы ў той вечар паслаў свайго слугу. Снуд і Ноў думалі, што забілі Браса, а яны забілі слугу і накіраваліся ў замак. Але браты ведалі аб жорсткай умове князёўны: у жывых павінен застацца толькі адзін. Зноў зазвінелі мячы. Снуд трапіў у самае сэрца Нова, але сам хутка памёр ад ран. Так загінулі абодва князі. Брас даведаўся пра гэта і прыехаў у замак. Дрыва выбегла яму насустрач.

— Любы мой,— сказала яна,— бой закончыўся, браты твае загінулі.

Паглядзеў на яе з пагардай горды Брас і адказаў:

— Злосная княжна! Тваё каханне мне не патрэбна.

І пайшоў.

Прыгажуня Дрыва выбегла з замка і кінулася ў возера. Не вынесла вялікага гора яе маці і таксама хутка памерла.

Праз некаторы час вярнуўся з паходу князь Дзвін, але і ён не доўга пражыў. Горадам кіраваць застаўся князь Брас. Слаўны гэта быў князь, вельмі справядлівы, але ўсё жыццё пражыў адзін.

Хочацца верыць: мабыць, і праўда, кіраваў тут некалі магутны князь Дзвін. І была ў яго дачка Дрыва, якую кахалі тры маладыя князі Снуд, Ноў і Брас. Ці не іх імёны жывуць у назвах самога горада Браслаў, рэк Дзвіны, Друйкі, азёр Дрывяты, Снуды, Навяты...

# КРАСАВІК

*Доўгачаканая пара... Абуджаецца прырода. У вясновым небе чуецца спеў жаўрука, чарадою цягнуцца з поўдня гусі і качкі, пачынаюць абжываць старыя гнёзды буслы. Растаюць у лесе апошнія плямы снегу, на падсохлых палянах зазелянела трава. На рэках і азёрах чарнее, трэскаецца лёд, пачынаецца паводка. Нават невялічкія рачулкі ператвараюцца ў бурныя, глыбокія і імклівыя. Рыба выходзіць нераставаць на мелкаводдзі.*



### 3. Пятніца.

70 гадоў назад (1922) заснаваны Мінскі педінстытут імя А.М.Горкага.

### 4. Субота.

435 год з дня нараджэння (1557) Л.Сапегі, канцлера Вялікага княства Літоўскага.

### 7. Аўторак.

БЛАГАВЕШЧАННЕ БОЖАЙ МАЦІ.

На Благавешчанне, як і на кожнае свята, забаранялася што б там ні было рабіць: "На Благавешчанне дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе". У народзе свята гэта мела старажытныя карані, лічылася днём надыходу вясны. Шмат дзе якраз ад Благавешчання (а ў некаторых мясцовасцях нават раней, у залежнасці ад традыцыі і, вядома, ад надвор'я) адбывалася гуканне вясны. Благавешчанне было вяхою ў прадбачанні надвор'я. Калі свята аказвалася цёплым, селянін мусіў чакаць марозную восень, і наадварот, снег, што заляжаўся да гэтай пары, абяцаў цёплую восень. Гаварылі, што такое ж надвор'е, як на Благавешчанне, павінна паўтарыцца і на Вялікдзень.

### 8. Серада.

110 гадоў з дня нараджэння І.Ю.Макея (1882—1955), беларускага казачніка.

### 12. Нядзеля.

Дзень касманаўтыкі.

### 15. Серада.

90 гадоў з дня нараджэння М.Нікановіча (1902—1944), беларускага пісьменніка.

### 19. Нядзеля.

Вербніца (уваход Госпада ў Ерусалім).

У Вербную нядзелю ў цэрквах асвячалі галінкі вярбы, сцябалі імі адзін аднаго і прыгаворвалі: "Не я б'ю — вярба б'е, за тыдзень — Вялікдзень". Сцебануўшы незнаёмага хлопца, дзяўчына пыталася ў яго імя, каб па ім даведацца пра імя будучага мужа. Асвячонай вярбе надаваліся гаючыя ўласцівасці, яе захоўвалі ў хаце. Галінкай такой вярбы выганялі жывёлу на першы выпас.

80 гадоў з дня нараджэння (1912) Л.Я.Прокшы, беларускага пісьменніка.

### 20. Панядзелак.

35 гадоў з дня выхаду (1957) першага нумара дзіцячага літаратурна-мастацкага часопіса "Вясёлка".

### 23. Чацвер.

80 гадоў назад (красавік 1912) у Вільні выйшаў першы нумар беларускага сельскагаспадарчага часопіса"Саха". Выходзіў да 1931 г.

75 гадоў назад (1917) у Мінску было створана Першае беларускае таварыства драмы і камедыі. Існавала да сярэдзіны 1920 года.

### 25. Субота.

Заўтра, 25 красавіка,— Вялікдзень (светлае Хрыстова ўваскрэсенне).

### 26. Нядзеля.

Дзень чарнобыльскай трагедыі.

## НЕ АДЦВІТАЙ, КВЕТКА!

Мая мова!  
Чароўная кветка!  
Ты ніколі  
Не адцвітай!

**Таіса Мельчанка.**

Неяк чытала цікавае інтэрв'ю з Вальжынай Цярэшчанка, бардаўскай спявачкай. Вальжына стварыла нядзельную школу беларускай мовы для дзяцей. Школа арганізавана пры Палацы моладзі вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш".

Хочацца спадзявацца, што такіх нядзельных школ з часам будзе шмат. У кожным раёне паўмільённага горада.

Няўжо беларусы зразумелі нарэшце, што наша мова і культура нічым не горшыя за іншыя? Знікне мілагучнае слова – загіне не толькі нацыя, загіне скарб, які перадаваўся з пакалення ў пакаленне...

Аднойчы надумалася правесці маленькі эксперымент. Ранкам, збіраючыся ў прадуктовы магазін, цвёрда вырашыла: размаўляю толькі на роднай мове. Вельмі хвалявалася: а ці зразумеюць? А мо будуць кпіць ды смяяцца? На вуліцы сустракаю знаёмых, весела вітаюся. І што вы думалі? У адказ – усмешкі і прыемныя беларускамоўныя прывітанні. Дзіўлюся. Ведаюць жа добра родную мову, але чаму ж не карыстаюць яе? У чарзе да касы знарок вяду гаворку па-беларуску. Заўважаю, людзі з цікаўнасцю азіраюцца, нібы на якую іншапланецянку. Сівабароды дзядок не вытрымлівае:

– Адкуль будзеце родам, маладзічка, з якой вёскі?

У думках незласліва смяюся з яго, але ласкава тлумачу:

– Дзядулька! Наша мова стала ганаровай. Пастанова прынята. Вось толькі не часта яшчэ пачуеш яе.

– Такая часіна ліхая...– уздыхае стары.– Але ведаеш, дачка, наша мова не прападзе. Некалі яшчэ сорамна стане ўсім тым, хто цураўся яе.

Каб жа яго слоўцы ды Богу ў вушкі.

Неўпрыкмет да размовы кабета далучылася. Распавядае, як днямі ў тралейбусе вусаты дзядок заваражыў усіх пасажыраў беларускай гаворкаю. Нагаварыў мех і кайстру прыказак ды прымавак народных.

І прыемна на душы, і настрой на цэлы дзень, і стомы, раздражнёнасці, нерваў нібыта й не было. Нездарма ж кажуць людцы: няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы!

**Ганна АТРОШЧАНКА, г.Гомель.**

**Пастскрыптум**

Пакуль доліс Ганны Атрошчанка рыхтаваўся да друку, мы атрымалі ад яе яшчэ адзін ліст. Там – выразаная з газеты "Гомельская праўда" маленькая заметка. Цытуем яе даслоўна:

## БЫВАЙ, ШКОЛА...

Існавала пры Палацы моладзі вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш" нядзельная школа. І займаліся там дзеці малодшага школьнага ўзросту. У ёй імкнуліся даць выхаванцам тое, што не дае ні дзіцячы садок, ні звычайная сярэдняя школа. Разам з арганізатарам школы і сваім настаўнікам Вольгай Цярэшчанка дзеці вучыліся размаўляць на роднай мове, атрымлівалі самыя першыя веды аб хрысціянстве і мастацтве. Але школа адпрацавала толькі год. Прычына закрыцця – адсутнасць сродкаў на падручнікі і наглядныя матэрыялы, пэўная абыякавасць адміністрацыі Палаца і раёна.

**Я.Тураў.**

Як кажуць, каментарыі непатрэбны – адцвіла кветка.

**Аддзел народнай адукацыі, навукі і культуры.**

зваротны адрас



## Змяніце “шыльду”!

Рэспубліка Беларусь на сёння – самая кансерватыўная дзяржава СНД. Вазьміце Украіну.Пачну з прэсы. Няма ўжо "Радянской Украіни", "Комсомольского знамени", а ёсць "Демократична Україна" і "Независимость". У Беларусі ж, як былі "Советская Белоруссия", "Чырвоная змена", "Знамя юности", так і засталіся. Ды яшчэ ўзнагароды былога СССР усе лепяць на сваіх "шыльдах". І смех, і грэх. Што ж гэта за анахранізм такі? Калі я бачу на нашай пошце газеты, якія прыходзяць з Беларусі па падпісцы, адразу псуецца настрой.

Якая сёння "чырвоная" змена?! Дзяржаўны сцяг бел-чырвона-белы. Камсамольцаў можна пералічыць на пальцах адной рукі. Няма сёння ні белых, ні чырвоных. Ёсць звычайная моладзь. Дык ці не лепей змяніць "шыльду", даўшы газеце сучасную назву тыпу "Маладая Беларусь", "Адраджэнне Беларусі" ці нават "Пагоня".

Магчыма, мой ліст падасца вам недалікатным, але, калі чытаеш у беларускіх газетах "калгас імя Леніна", "Ленінскі шлях", "Запаветы Ільіча" і г.д., а на календары – 1992 год, робіцца не проста крыўдна за свой народ, а з'яўляецца нейкая злосць: чаму мы, беларусы, такія дурні, чаму кланяемся чужым ідалам? Няўжо ў нас няма сваіх святыняў? Я ўжо стаміўся злавацца. Калі вы не зменіце абрыдлую мне за больш чым трыццаць гадоў назву "Чырвоная змена", я проста кіну вас выпісваць на 1993-ці год.

Вы напісалі, што калектыў штотыднёвіка сам вырашыў стаць заснавальнікам свайго выдання. Вось вам і карты ў рукі.

Жыве Беларусь!

Пятрусь Капчык,
філолаг,
чытач газеты
з 30-гадовым стажам.
г.Ізяслаў.

*Працягваецца чытацкая лятучка. На артыкул Уладзіміра Міхно "Чаму чырванее "Чырвонка"?" (4.11.—10.11.1991г.) прыйшлі новыя водгукі.*



## “Рэвалюцыйны” ліст

Як вядома, час мяняе людзей, а апошнія ў сваю чаргу мяняюць час. Мяркую, што ўжо наспеў час змяніць назву вашае дый нашае газеты. Цяперака гэтага вымагае шчэ й ейны змест, які праўдзіва і чынна, да часу і да месца адлюстроўвае малыя і шматзначныя падзеі ва ўсіх сферах жыцця нашае Бацькаўшчыны. Вось чаму я, адзін з тысячаў чытачоў "ЧЗ", скасаваўшы ў свой час падпіску на газету з-за кансерватыўна-тэндэнцыйнага думкачыну (менталітэту), вырашыў сёлета конча прынумаравацца на "Чырвонку" зноў!

Што да назвы газеты, лічу, што яе змест павінен адпавядаць яе твару, г.зн. яе назову. Нязгодныя са мной "кансерватары" могуць правамоцна палікнуць аўтара гэтых радкоў у сведамым падвуйленні традыцыйнасці і ўсіх дасягненняў рэдакцыйных калектываў "Чырвонкі" за семдзесят гадоў з гакам. Могуць таксама ў гэтым варунку згадаць, што, маўляў,"Комсомольская правда" і "Звязда", відочна стаўшыся дэмакратычнымі выданнямі, зусім не спяшаюцца за прыхільнікамі і завадатарамі пераназову вуліцаў і пляцаў, калгасаў і прадпрыемстваў, мястэчкаў і местаў. Пэўны, што быцьмуць і тыя, хто лічыць, што новае не заўсёды лепшае за старое, прывёўшы як прыклад бальшавіцкі перакрут 1917 года альбо цяперашнюю лібералізацыю цэнаў і дзікую прыхватызацыю, як мовяць ці то жартам, ці то ўсур'ёз кемныя бабулькі. Яно, пэўна, гэдак. Але я, пакідаючы ўсё ж за сабой неад'емнае права чытача браць удзел у стварэнні свае газеты, звяртаюся да шаноўнага спадарства рэдакцыі "ЧЗ", а праз газету да ўсіх яе падпісчыкаў і чытачоў з цалкам канкрэтнай і, на мой подум, архінадзённай прапановай: пераназваць "Чырвоную змену", ну, калі не на "Бел-чырвона-белую змену" (жартую), то хоць бы на ідэалагічна і палітычна нейтральную "Моладзь Беларусі". І, каб гэта было ўрэшце дэмакратычна, прапаную правесці на бялёнках "Чырвонае змены" конкурс на лепшую, адпавядаючую часу назву і яе мастацка-паліграфічнае выкананне.

Мікола Ермалаеў
м.Полацак.




Трэці нумар часопіса "Роднае слова" ("Беларуская мова і літаратура ў школе", які нядаўна пабачыў свет, адкрываецца нататкамі навукоўца Івана Яшкіна "Мова дыялектная – мова родная!"

Прапагандыстам роднага слова варта звярнуць увагу на распрацоўку Галіны Мікалаенкі і Тамары Новікавай "Слухаем, чытаем, гаворым, пішам па-беларуску", у якой аўтары дзеляцца вопытам правядзення курса беларускай мовы ў Мінскім гарадскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Гэты матэрыял вельмі спатрэбіцца тым, хто бярэцца весці моўныя курсы ў дарослай аўдыторыі.

Вершы паэткі Ларысы Геніюш будуць у наступным навучальным годзе гучаць на ўроках роднай літаратуры. Яе адметная творчасць аналізуецца ў нататках "Ты мой боль сьвяты, Беларусь мая..." У часопісе падаецца таксама спіс літаратуры пра Ларысу Геніюш, а на чацвёртай старонцы вокладкі змешчаны верш "Наш сьцяг" з першай яе кнігі "Ад родных ніў".

Са сховаў часу прыходзіць у школу і творчасць Максіма Гарэцкага. У распрацоўцы " ...А там гарэла ціхае сялянскае святло" настаўнікам прапануецца варыянт арганізацыі працы з вучнямі пры вывучэнні яго твораў "Ціхая плынь" і "На імперыялістычнай вайне".

Побач з аналізам творчасці сталых літаратараў у часопісе ідзе размова пра маладую беларускую прозу – друкуецца працяг нататкаў Алеся Бельскага "Да глыбіняў жыцця".

У чарговым нумары часопіс нагадвае энтузіястам нацыянальнага Адраджэння пра тое, што настала пара рыхтавацца да школьнага лета. Як вядома, працэс беларусізацыі патрабуе пераасэнсавання зместу не толькі школьнай, але і пазашкольнай выхаваўчай работы. Але ж вельмі цяжка прыжываецца родная мова, да прыкладу, у летніках (піянерскіх лагерах). Своеасаблівай падказкай для тых, хто дбае пра паўсюднае адраджэнне беларускай мовы на роднай зямлі, будуць матэрыялы часопіса ў раздзеле "Калі закончыўся ўрок". Тут расказваецца пра вопыт арганізацыі беларускамоўнага летніка "Грунвальд", змешчаны пачатак цікавай распрацоўкі "Да вытокаў роднага слова: Літаратурная экскурсія ў прыроду". Практычныя рэкамендацыі па арганізацыі беларускамоўных летнікаў рыхтуюцца і ў наступны нумар часопіса.

Раздзел "На ростанях" адкрываецца публікацыяй Уладзіміра Садаля "Пуцявінамі Купалы" – да 110-годдзя з дня нараджэння Песняра. Аўтар апісвае ў ім мясціны на Міншчыне, свае ўражанні ад сустрэч з тымі людзьмі, якія памятаюць маладога Купалу. Да 50-годдзя з дня нараджэння навукоўца Міхася Ткачова друкуецца гістарычны нарыс юбіляра "Усяслаў Чарадзей". У публікацыі "З наднямонскіх крыніц маёй песні вытокі..." апавядаецца пра літаратурныя імёны Зельвеншчыны.

Часопіс змяшчае і іншыя матэрыялы, у тым ліку працяг "Календара юбілейных дат і памятных дзён" на бягучы год.

Агляд падрыхтаваў
Іван Ждановіч.

## Немаўля

### СКНАРА

Неяк у двары Ігнатка
Ласаваўся шакаладкай.
Таня ў рот яму глядзела:
— Я такой
Яшчэ не ела...

Скасавурыўся Ігнат:
— Надта ж горкі шакалад!
Сапсуеш яшчэ жывот...
І адправіў рэштку ў рот.

І.Сідарук



ВЫТОКІ

# Пра цягнікі і машыністаў

## З расказаў палешука

Добры вечар вам, чалавеча. Скажыце, калі ласка, колькі зараз часу будзе? Колькі? Дзякую, вельмі дзякую. Вы не супраць, калі я вось тут прытулюся? Яшчэ раз дзякую. Вы не збіраецеся драмаць? Гэта я таму пытаюся, каб не перашкодзіць вам сваёй гамонкай. Сапраўды, да вуглавой станцыі цягнік хутка дойдзе, драмаць няма сэнсу... Але вось пасля, калі цягнік паверне на нашу ветку... Та-а-а-ак. І чаму так атрымліваецца — ці то графік так нехта склаў, ці то машыністы вінаватыя, але як толькі цягнік паварочвае на нашу ветку, дык хуткасць адразу падае, нібы муха па смале, паўзе. Ведаеце, як у нас гавораць пра гэты цягнік? "Як да людзей, дык ляціць, гудзе, а як да палешука — ідзе пешака".

Гэта зараз так, а раней што было! Вы да нас не ездзілі ніколі? Наогул, у нашы мясціны не траплялі? Шкада, шкада, шмат чаго страцілі. Не толькі я, кожны вам скажа: нашы мясціны — самыя прыгожыя. Чыстая праўда. Нават калі ў вагоне едзеш ды ў акно глядзіш: там табе хвойнік, там бярозавы лес, там забалочаная мясцінка трапіцца з такімі знявечанымі, няшчаснымі дрэўцамі, што сэрца шчыміць. Едзеш далей — азярко з'явіцца. Так прыгожа!

Цяпер па нашай ветцы цягнікі не вельмі часта ходзяць, а пасля вайны наогул адзін-два ў дзень калі пройдуць, то й добра. Дык вось, пляцецца па нашай ветцы цягнік. Пешака ідзе, як кажуць. Лета. Дзень сонечны — спякота, бы ў той лазні. І гэта ў вагонах. А машыністу з памочнікам ля самай топкі ўявіце як. Праедзе цягнік некалькі раз'ездаў і раптам спыняецца ля якой маляўнічай мясцінкі. Машыніст з памочнікам вылазяць з паравоза — ды ў цянёк. Лягуць на спіну, рукі пад галаву, картузы на вочы — матухна ты мая, прыемна! Глядзіш на іх — аж зайздрасць бярэ, а сам баішся лажыцца: раптам заснеш і ніхто не разбудзіць. А машыністу з памочнікам што — без іх цягнік нікуды не дзенецца.

Людзі ў вагонах праз нейкі час злаваць пачынаюць, нават лаяцца на машыністаў. А тым — хоць бы хны. Толькі калі вельмі дапячэ, агрызнуцца:

— Будзеце крычаць, назад паедзем!

Людзі і змоўкнуць.

А калі ягады ці грыбы пойдуць — зусім кепска. Спыняць машыніст з памочнікам цягнік і пакуль не набяруць сабе ягад ці грыбоў — з месца не крануцца. Ды людзі прыстасаваліся да гэтага: ніхто з нашых без кошыка ці вядра на той цягнік не садзіўся. Машыніст з памочнікам у лес — і людзі ў лес. А каму дамоў хутчэй трэба, той дапамагае машыністам грыбы ды ягады збіраць. І нікога яны — машыніст ды памочнік — не чакалі. Гэта іх усе чакалі. А яны набяруць сабе, колькі трэба, на паравоз і — гу-у! — паехалі.

Магчыма таму, што людзі нікуды не скардзіліся, а можа, па іншай прычыне, але асобныя машыністы нават ішлі насустрач людзям. Ідзе цягнік і даганяе чалавека, які ўздоўж чыгуначнага палатна клыпае. Падыме чалавек руку — цягнік і спыніцца. Можна было на якім-небудзь супынку падысці да машыніста і папрасіць яго спыніцца ў тым ці іншым месцы — і такое здаралася. Праўда, не ўсіх машыністаў і не заўсёды можна было ўгаварыць.

Та-а-а-ак... Зараз ужо з пасажырскімі цягнікамі не тое. А вось з таварнікамі дык і зараз не бяды. Па дарозе ніхто не падбярэ, а спыніцца дзе-небудзь угаварыць машыніста можна. Хоць і не ўсякага, і не заўсёды. І людзі не крыўдзяцца. Усе ведаюць, што па закону гэтага рабіць нельга. Спыніцца машыніст там, дзе яго папросяць, — дзякуй яму за тое, яшчэ і грошай дадуць, раней і сала давалі; не спыніцца, адмовіць — і на тым дзякуй.

Пытаецеся, чаго людзі на таварняках ездзяць? Ды таму, што да нас пасажырскі толькі раз у дзень ходзіць. Не паспеў на яго — чакай наступнага цэлыя суткі. Вось і садзяцца на таварнякі. А дзе там змесцішся? Толькі на тармазной пляцоўцы якога-небудзь вагона. Летам яно яшчэ нічога, часам прыемна нават. А вось позняй восенню, зімой, калі вецер свішча, абліваюць... Бр-р-р!!!

Памятаю, неяк зімой мы з трыма мужыкамі ноччу ехаць дамоў на таварняку сабраліся. Падышлі да машыніста, прасіцца пачалі. Той згадзіўся. Выбралі мы сабе тармазную пляцоўку ў адным з вагонаў, скакаць пачалі, штурхацца, каб сагрэцца, значыць, бо ехаць далёка, а пляцоўка адкрытая, на ёй пастаіш, дык замерзнеш. Вось мы і пачалі цяплом запасацца, каб не адразу ў дарозе калець пачаць. Скачам мы, штурхаемся, раптам бачым: машыніст да нас ідзе. Мы і аслупянелі! Усё, думаем, прыехалі, ідзе да нас, каб сказаць, што не возьме. Але машыніст падышоў ды ўсіх нас да сябе ў будку запрасіў. Вось мы ўжо абрадаваліся! Трэба ж, такая нечаканасць: у цяпле можна ехаць. Мы спачатку аднеквацца пачалі, а самі сабе думаем: хоць бы ён нас не паслухаў, хоць бы не перадумаў ды ў будку пусціў.

"Угаварыў"усё ж нас машыніст, ушчаміліся мы ў будку паравозную; вядома, не вельмі зручна, затое цёпла. Даехалі мы да свайго месца, пачалі грошы машыністу даваць — не бярэ! Колькі ні ўпрошвалі — не бярэ грошы, дый годзе. Прыйшлося сярод ночы бутэльку шукаць. Нічога, добры чалавек той машыніст трапіўся — стаяў, нікуды не ехаў, нас чакаў. Дый то трэба сказаць, што бутэльку мы хутка знайшлі. Узяў у нас машыніст бутэльку гарэлкі самаробнай, ад кавалка сала таксама не адмовіўся, яшчэ і падзякаваў.

Бывае, што нас дрызіна выручае. Трэба адзначыць, што ездзіць на гэтай дрызіне вельмі добры чалавек. Каго б ён ні дагнаў на дарозе, хто б ні папрасіўся дзе — заўсёды падбярэ, падвязе, ды і спыніцца ў любым месцы. Пры гэтым пажартуе:

— Прабачце, што да хаты падвезці не магу: чыгуначнае таксі дый толькі. А грошы, на здзіўленне ўсім, не бярэ і бутэльку не просіць. Толькі зрэдку. Можа, калі дома з грашыма цяжка альбо калі якой маладзіцы падарунак употай ад жонкі купіць трэба. Возьме грошы, колькі дадуць, сам ніколі не скажа. Затое, калі нашы мужыкі збяруцца дзе выпіць — ці то каля магазіна, ці на станцыі, ці ў горадзе, ці проста, як мы кажам, у хмызняку — і ўбачаць гэтага чалавека, што на дрызіне ездзіць, то чаркай яго ўжо ніколі не абнясуць.

Анатоль ПАЗНЯК.

# МЕНЗУРКА, ЯКАЯ ЖЫЛА НА ДАХУ

Вясна. Сонейка цяпер кожнага дня горача цалуе падаконнік у кабінеце дырэктара Чашніцкага гістарычнага музея, і заснуўшыя, было, летаргічным сном, абуджаюцца хатнія кветкі, весялеюць, кволымі парасткамі настойліва цягнуцца да святла. Гаспадыня кабінета Людміла Рыгораўна Касценка любіць кветкі. Але часам да іх проста не даходзяць рукі. Тут многа кніг, нават яшчэ не распакаваных. Перадаюць бібліятэкі (па старой дружбе): некалі і сама бібліятэкаршай была. Тут многа бывае наведвальнікаў. Праўда, людзі розныя прыходзяць. Аднойчы завітаў да яе сын і загаварыў па-беларуску. А нехта ўзяў дый запытаўся: вам, дырэктару, не сорамна, што сын ваш па-беларуску гаворыць?

Даўно было. Зараз?.. Хочаце загадку? Вострая, сталёвая, ляжыць на пісьмовым стале ў дырэктара і чакае. Ніколі не здагадаецеся... Адвёртка... А чаго чакае? Ды маразоў, пэўна — вялікіх і траскучых. Бо, калі прыйдуць тыя маразы ды, не дай бог, адключыцца электрыка, ды рване вада ў ацяпляльных батарэях... Зрэшты, тады ўжо адвёртка не спатрэбіцца. Але годзе фантазіраваць на тэмы "фільмаў-жахаў", балазе тыя фільмы і так жыццё пракручвае на кожным кроку. Паспадзяёмся лепей на сякі-такі практычны вопыт як дырэктара музея, так і яго навуковых супрацоўнікаў у справе самаацяплення. Сістэма тут вельмі нават простая: ваду ў трубах награвае электрыка, якую самі жанчыны і ўключаюць, прыйшоўшы на работу. І той самай адвёрткай кожная з іх валодае не горш, чым шарыкавай ручкай. Вось табе і "не кочегары мы, не плотники". Сістэма простая — наша сістэма: хочаш жыць — умей пагрэцца. Не да качагара, у саміх зарплата — кот наплакаў. У дырэктара зараз — аж дзевяцьсот рублёў. Не ведаю, можа, гарадскія ўлады ў школе кепска вучыліся, што з падручніка гісторыі старажытнага свету засвоілі адно: нібы ў вечнай мерзлаце лепей захоўваюцца музейныя экспанаты. Што да кавалка мамантавага біўня — згодзен, яму тут няблага; што да кніг і фотаздымкаў — вельмі нават не ўпэўнены, таварышы-спадары.

Ну, гэта між іншым. "А ў астатнім, цудоўная маркіза..." Музей як музей. І каму першаму ў нашай цудоўнай вольнай краіне прыйшло ў галаву ўзяць на ўзбраенне лозунг: кожнаму раённаму музею — музейны будынак, толькі той неўміручы лозунг і да гэтага часу "жывей усіх жывых". Бо ні разу не даводзілася бачыць на ўласныя вочы, каб гэтую самую "бюджэтную арганізацыю" узялі пад крыло ці хоць бы пад свой дах вышэйшыя раённыя ўлады.

Музей тут як музей: з мноствам цікавых экспанатаў, кожны з іх мае сваю гісторыю; з вітрынамі, на якіх ад вільгаці ўтварыўся белы незмываемы налёт, з нядаўнім капітальным рамонтам, які рабіў, вядома, мясцовы ПМК, а таму простым вокам вельмі цяжка той рамонт заўважыць. Словам, усё — як у людзей.

А экспанаты тут, і праўда, "з гісторыяй". Цікава! Можна ўбачыць прасніцу, жорны, ступу. Дзе цяпер сустрэнеш падобныя дэфіцыты? Ёсць і старыя прасы, якія добрыя людзі разагравалі вугаллем — ды цэлых пятнаццаць штук, багацце! Ёсць і калыска, і сявенька, і вялізны саламяны кашэль, дзе даўней захоўвалі зерне (і куды глядзелі мышы?). Разглядваеш, любуешся, ды так і падмывае сказаць: не плачце, людцы дарагія, бо вы ж на "залатым яечку" седзіце. Вось паглядзіце, як налюбуецца народ магазіннымі цэннікамі ды не захоча голым застацца, то насее льну ды абсядзе кудзелю прасці. І адарвуць тады вашы прасніцы ды прасы з рукамі ў вас. І, калі пасадзіць заўтра рынак нашу шаноўную культуру на гасразлік, то вам не бяда. За такім багаццем сто гадоў жыць будзеце. Можна будзе і малую вытворчасць адкрыць, у камерцыю кінуцца.

Вунь тую драўляную саху, якая зараз так каларытна ўпрыгожвае цэнтральную залу, дзед нізашто аддаць не хацеў, як ведаў, што настане смутны час. Давялося музейшчыкам дзве восені дапамагаць яму бульбу капаць. А за той вунь армяк і зусім чалавеку новае паліто купілі, балазе яшчэ па цэнах ніжэй за рыначныя.А што вы хацелі, бартэр ёсць бартэр. Праўда, з дзядамі ды бабулямі прасцей, ведама, сялянская душа шчодрая. Горш з рабочым класам, калі той у асобе дзяржаўнага прадпрыемства. Скажам, у папяровае фабрыкі дапрасіцца маленькага рулончыка паперы для экспазіцыі, акурат у таго зімою лёду. І не пойдзеш жа за той рулончык у найміты. Вось і блындаемся з працягнутай рукою па арганізацыях і прадпрыемствах, нібы Марка на пекле. Хто што дасць, з кожнага па нітцы - голаму кашуля, быццам у сваю кішэню кладзеш. А кіраўнікі — людзі практычныя, ім падавай выгаду. А што ім музей — як мёртваму кадзіла. Ну, які, скажыце, навар той жа папяровай фабрыцы ад гістарычнага музея, калі ў яе ў самой абсталяванне, без перабольшання сказаць, стогадовай даўніны і можна прама ў цэху музей адкрываць.

Не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. Будынак, які гады два назад дастаўся музею ў спадчыну ад дзіцячай бібліятэкі, аказаўся не так сабе, а з пасагам. На гарышчы, сярод макулатуры, знайшлі жанчыны падшыўкі старых газет, знайшлі "імянную" аптэчную мензурку, што ў даўнія часы належыла нейкаму С.І.Майзелю, спадачак для чаю 1787 года нараджэння, стары тэрмометр, які, аднак, і сёння ахвотна мерае тэмпературу ў кабінеце дырэктара (самы цёплы кабінет у музеі: ажно дзевяць градусаў па Цэльсію). Кажуць, добрая знаходка — у хаце пад лаўкаю. Выходзіць, што і пад лаўкаю, захацеўшы, што-колечы можна знайсці. Выкінулі мензурку за непатрэбнасцю. Жыла сабе яна на даху і ведаць не ведала, што некалі яшчэ спатрэбіцца людзям... Шкада, што мова беларуская — не мензурка, і, выкінуўшы аднойчы на сметнік, не знойдзеш потым. І не даруе вам, людзі-манкурты, нашчадак таго гвалту, які ўчынілі над гісторыяй, над культурай, над моваю — над будучыняй.

Ёсць у Чашніках вуліца паэта Янкі Журбы, застаўся падмурак дома, дзе ён жыў. Толькі ці багата хто ведае пра тую вуліцу? Хіба ў музеі яшчэ чытаюць экскурсантам вершы знакамітага земляка. Яшчэ рупяцца ў музеі: і экскурсіі праводзяць па-беларуску, і стварылі аб'яднанне аматараў гісторыі, культуры, мовы. І навуковы супрацоўнік Ніна Трафімаўна Кіндзяева ўжо каторы месяц працуе над кнігай памяці Чашніччыны. У адрозненне ад іншых раённых музеяў, дзе проста збіраюць для кнігі матэрыял ды падаюць на апрацоўку, тут — піша сама, з ахвотаю і энтузіязмам Як кажуць, дай бог. Ды толькі вышэй за сябе не падскочыш, бо пакуль не ўзаконена фактычна мова ў народзе, ні дзяржаўныя пастановы, ні высілкі асобных энтузіястаў наўрад ці што дадуць. Пакуль жа ў Чашніцкім музеі, як, зрэшты, і ў дзяржаве, для моўнае вітрыны адведзены сціплы куточак. Туляцца там літаратары-землякі, кніжачкі іхнія. І не пазайздросціш ім, і не параўнаеш, скажам, з экспазіцыяй, прысвечанай кастрычніцкай рэвалюцыі, даўжэзнай і шырокай, нібы сам Ленінскі праспект. Што ж, хто плаціў, той і заказваў музыку. Дык мо годзе скакаць на чужых танцах? І тады вернецца памяць да нас. І перастануць быць музейшчыкі — качагарамі, настаўнікі — жабракамі, а пісьменнікі стануць нарэшце народнымі. І тады насельніцтва народам стане, а народ — нацыяй, і стане край — краінаю.

**Уладзімір Міхно.**



# "Я з дзяцінства лічыў сябе скаўтам..."

Мы жывём у цікавы час. Можа нам крыху і не хапае чаго для матэрыяльнага дабрабыту, але ў грамадскім жыцці выбар надзвычай шырокі. І калі раней усё было зразумелым: "акцябронак", піянер, камсамолец, камуніст, то цяпер нават у дзіцячым руху можна заблытацца. Акрамя пералічаных, ужо нават у большай колькасці, з'явіліся цяпер і каласкі, і скарынічы, і ўручаты... Можна чакаць нараджэння ўсхадняп, захадняп, масючат і каржанят. Нездарма настаўнікі цяпер хвалююцца, што ў школе анархія: "Мы можам страціць юнака!"

21 сакавіка ў Мінску ў Рэспубліканскім палацы дзяцей і юнацтва адбыўся Устаноўчы Сойм Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў (АБС), на які былі запрошаны ўсе, хто цікавіцца дзіцячым і юнацкім рухам. Сярод гасцей Сойма было шмат настаўнікаў. Сваім хваляваннем падзяліўся настаўнік вясковай школы з Сенніцкага раёна Віцебскай вобласці Цярэня С.М.: "Зараз у школе пачынаецца анархія. Былыя піянерская і камсамольская арганізацыі страцілі свой аўтарытэт. У нечым гэта і добра, бо дзеці не будуць выхоўвацца пад уплывам "адзінаправільнай тэорыі". Але цяпер мы засталіся адзін на адзін з дзецьмі, а настаўнік не Гасподзь Бог... Баюся страціць моладзь. Зараз у школах, асабліва ў нас у глыбінцы, амаль адсутнічае дух Адраджэння. Нейкі рух ёсць толькі ў маладых настаўнікаў. У нас у вёсцы лягчэй вяртацца да беларускай мовы, бо мы яшчэ не страцілі карані. Але настаўніку тым не менш патрэбна падтрымка. Аб скаўтынгу даведаўся з перыёдыкі. Аб'яву аб Устаноўчым Сойме прачытаў у "Свабодзе" — і сябры настаўнікі накіравалі мяне ў Мінск".

Настаўніка з вясковай школы падтрымалі калегі са сталіцы:

— Сапраўды, цяпер цяжка арыентавацца ў гэтым вірлівым акіяне. Але зваже супрацьлегласць паміж "расейскамоўнымі" і "беларускамоўнымі". На нашу думку, тут не моўнае пытанне, а добра схаванае палітычнае. Аднак ад палітыкі дзяцей трэба пазбавіць.

Сярод гасцей Сойма былі прадстаўнікі Беларускага згуртавання вайскоўцаў, БНФ, Задзіночання Беларускіх Студэнтаў, святары уніяцкай і пратэстанцкай канфесій, аднак, усе яны зычылі знайсці скаўтам адзінства погляду ў метадзе выхавання моладзі на адзінай аснове, на духоўным падмурку веры ў Бога і любві да Бацькаўшчыны. Як трапна заўважыў Вінцук Вячорка, скаўтынг павінен рыхтаваць будучае нашай дзяржавы — нацыянальныя кадры.

Сойм віталі навучэнцы Міжнароднага Хрысціянскага Цэнтра, што ў Швейцарыі, і скаўт з Дэнвера (штат Каларада ў ЗША) сп. Уільсан. Па просьбе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча выступілі з вітаннем да Сойма дэпутатка ВС Беларусі Вольга Галубовіч і дэпутат Анатоль Лябедзька, які ў прыватнасці сказаў, што зусім нядаўна сустракаўся з кіраўнікамі Сусветнага Скаўцкага Бюро ў Жэневе Жанам Марыёнам і Жакам Касіньё, а таксама з кіраўнікамі скаўцкіх арганізацый Францыі. Усе яны, даведаўшыся, што плануецца правядзенне Устаноўчага Сойма беларускіх скаўтаў, дасылаюць самыя лепшыя віншаванні з гэтай гістарычнай падзеяй. Яны добра ведаюць, што адбываецца ў нашай краіне, у нечым нават лепш за нас, і засцерагаюць ад істотнай памылкі, што ў аснову скаўцкай арганізацыі трэба класці тэрытарыяльны, а не нацыянальны прынцып фарміравання.

Адам Мальдзіс перадаў АБС для музея гісторыі беларускіх скаўтаў дакумент, які цалкам абвяргае тое, што пісалася ў газеце "Семь дней", — быццам крывіцкія скаўты былі памагатымі фашыстаў. Гэта бланк Згуртавання Беларускіх Скаўтаў на Чужыне (ЗБСЧ), які быў распрацаваны ў Нямеччыне ў 1947 годзе ў Міхельсдорфаўскім лагеры для перамешчаных асобаў. Дакумент перададзены Скарынаўскаму цэнтру старшынёй Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ), доктарам Вітаўтам Кіпелем.

Выступіла і ветэранка беларускага скаўцкага руху сп. Дамашэвіч (Пілецкая). Яна расказала пра скаўцкую харугву, якая яшчэ ў 30-я гады была створана настаўнікамі г.Клецка. На жаль, амаль нікога з крывіцкіх скаўтаў ужо няма ў жывых. Галіна Паўлаўна Дамашэвіч прапанавала ўшанаваць памяць скаўтаў, загінуўшых на Салаўках і ў Картуз-Бярозе, хвілінай смутку і маўчання. У заключэнне яна, звяртаючыся да скаўтаў — удзельнікаў Сойма, сказала, што яны павінны ведаць мінулае, каб ім не прыйшлося несці яго цяжар.

На адрас Сойма паступілі пісьмовыя віншаванні ад беларусаў свету, нават з Рэспублікі Саха ад старшыні беларускага таварыства "Суродзіч" Якуцка Алеся Баркоўскага.

Сойм выканаў вялікую работу. За адзін дзень дэлегаты паспелі заслухаць паведамленні і аб гісторыі беларускага скаўтынгу (дзякуй сп.Акімаву), і аб надзённых клопатах Гарадзенскай харугвы скаўтаў (Юрась Тарасевіч), прыняць Статут і абраць кіруючыя органы АБС на чале з канцлерам Аркадзем Жукоўскім (Гародня). У наступны дзень пасля набажэнства за поспех у адраджэнні беларускага скаўтынгу (Кафедральны сабор, касцёл Св.Роха, Беларуская Хатка) быў праведзены тэарэтычна-практычны семінар "Беларускі скаўтынг і сусветны дзіцячы рух. Вопыт летнікавай работы". Засталося толькі зычыць нашаму Вярхоўнаму Савету браць прыклад са скаўтаў, якія не спяць на пасяджэннях і наогул хутка рухаюцца.

### Погляд з боку

*Уладзіслаў Вяроўкін, сябра Рады Задзіночання Беларускіх Студэнтаў (ЗБС), сябра аргкамітэту АБС:*

"Калі арганізацыя, што ствараецца, будзе працаваць, то яна, магчыма, стане адной з лепшых маладзёжных арганізацыяў на Беларусі. На гэты час няма ніводнай дзіцячай арганізацыі, якая б не здыскрэдытавала сябе, як піянеры, "акцябраты". Ідэя скаўтынгу вельмі прываблівае дзяцей і бацькоў тым, што ставіць за галоўную мэту агульна чалавечыя каштоўнасці. ЗБС можа мець непасрэдныя стасункі з АБС, бо шмат цяперашніх скаўтаў будуць, магчыма, сябрамі нашай арганізацыі. Ідэі, закладзеныя ў Статуце АБС, шмат у чым сугучныя з нашымі".

*Адам Мальдзіс — дырэктар Нацыянальнага Навукова-Асветнага Цэнтра імя Ф.Скарыны, Прэзідэнт Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў:*

"Я адгукнуўся на прапанову ўдзельнічаць у Сойме, бо ў нашы статутныя задачы ўваходзіць садзейнічанне ўзаемаразуменню і збліжэнню народаў свету. Беларускі дзіцячы грамадскі рух трэба аднаўляць з улікам сусветнага вопыту".

*Тарасэвіч Юрась — сябра Рады Гарадзенскай харугвы скаўтаў:*

"Спробы аб'яднаць беларускіх скаўтаў ужо былі, і, урэшце, Сойм выканаў сваю справу. Праўда, хачу заўважыць, што не трэба скакаць пад дудку Жэнеўскай штабкватэры. Хоць было б няблага, каб мы былі афіцыйна прызнаныя на сусветным узроўні і мелі свой статус, як афіцыйныя прадстаўнікі скаўцкага руху на Беларусі.

P.S. Станіслава Шушкевіча на Сойме абралі ганаровым Прэзідэнтам (Скаўт-канцлерам) АБС, а таксама ганаровымі скаўтамі – Уладзіміра Караткевіча і Галіну Дамашэвіч.

**Паўлюк Быкоўскі, Андрэй Вашкевіч, "Выбранецкая інфармацыйная служба "ГАЛС".**




## Прагноз

### "Быць фізікам добра, бухгалтарам лепш..."

*Так канстатавалі ў Рэспубліканскім цэнтры занятасці насельніцтва пры Дзяржаўным камітэце па працы. На студзень гэтага года зарэгістраваны 1.592 чалавекі, якія па розных прычынах аказаліся без работы. 1.107 з іх атрымліваюць сацыяльную грашовую дапамогу. Наогул жа каля 15 тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь былі ўзяты на ўлік як патрабуючыя працаўладкавання. Бясстрасная статыстыка сведчыць: вызначылася ўстойлівая тэндэнцыя скарачэння колькасці занятых у народнай гаспадарцы, асабліва на дзяржаўных прадпрыемствах (71 працэнт), хоць рынавачныя адносіны яшчэ не ўздзейнічаюць.*

Што ж чакае нас сёлета? Па прагноз рэдакцыя звярнулася да вядучага спецыяліста Цэнтра занятасці Надзеі Іванаўны Раманавай.

**— Агульнавядомая ісціна: сярод беспрацоўных асноўную большасць складаюць жанчыны і маладыя спецыялісты, нядаўнія выпускнікі ВНУ. Але давайце канкрэтызуем у лічбах.**

— Неафіцыйнае першынство сапраўды ўтрымліваюць нядаўнія выпускнікі. Але не абавязкова ВНУ. За 4 месяцы існавання Цэнтра да нас звярнуліся па дапамогу па працаўладкаванню 1.479 чалавек, якія сёлета закончылі сярэднія спецыяльныя прафтэхвучылішчы, 798 — сёлетнія выпускнікі тэхнікумаў і 720 — выпускнікі ВНУ. З іх працаўладкаваны адпаведна 946, 429 і 314 чалавек, прызнаны беспрацоўнымі 47, 80 і 184 чалавекі. Як бачым, колькасць тых, каму не змаглі дапамагчы знайсці работу пасля ВНУ, сапраўды найбольшая. Са 184 учарашніх студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, цяпер беспрацоўных, права на сацыяльную дапамогу заканадаўча маюць толькі 162. Найцяжэй знайсці работу ў Мінску.

**— А як справы з прафесіямі, што набываюцца ў БДУ?**

— Летась да нас часцей з выпускнікоў БДУ звярталіся настаўнікі рускай мовы і літаратуры, гісторыкі, матэматыкі, фізікі. З іншых спецыяльнасцей складана працаўладкавацца эканамістам, фізікам-радыётэхнікам, электроншчыкам, тэхнолагам, праграмістам. Наогул вакансій для ІТР вельмі і вельмі мала, асабліва ў Мінску. Напрыклад, эканамістаў у нас зарэгістравана ў 3 разы больш, чым вакансій.

**— Як журналіст, карыстаючыся выпадкам, не магу не запытацца пра лёс заўтрашніх маіх калег.**

— Пакуль беспрацоўных журналістаў не зарэгістравана. Але ў сувязі з даволі рэзкім ростам цэн на паперу і паліграфічныя паслугі многія газетныя выданні апынуцца на мяжы банкруцтва, і будучае журналістыкі не зусім бясхмарнае. Цяжкасці з працаўладкаваннем рэальныя ў будучым.

**— Якая сёння найбольш "надзейная" прафесія?**

— Пэўна, бухгалтар. Асабліва частыя заяўкі на галоўнага бухгалтара. У сельскай мясцовасці па-ранейшаму шмат вакансій аграномаў, заатэхнікаў, ветэрынараў. Не хапае медыкаў, настаўнікаў, многіх іншых спецыялістаў у Магілёўскай і Гомельскай абласцях.

**— Магчыма, некаторым са студэнтаў варта падумаць аб змене профілю?**

— Катэгарычна "мяняць" я б раіла ўжо адразу дзяўчатам, якія вучацца на інжынера-механіка, інжынера-будаўніка, інжынера-геадэзіста, інжынера-дарожніка ці на іншыя нежаночыя прафесіі. Уладкавацца ў НДІ, у "цёплыя" кабінеты на кіруючыя пасады сёння для іх практычна немагчыма, а на аб'ектах, на трасе або ў механічных майстэрнях — што там жанчынам рабіць? Адназначна раю выпускнікам не браць даведку на самастойнае працаўладкаванне, а ісці па размеркаванню, бо ў выніку ўсе "самастойныя" потым прыходзяць да нас. Памятайце, грашовая дапамога выдаецца ў выключных выпадках, зусім не кожнаму беспрацоўнаму. Найлепшы варыянт — вучоба на дагаворнай аснове з прадпрыемствам, установай. Ну, а наш Цэнтр можа гарантаваць толькі зацікаўлены, добразычлівы ўдзел у вашых праблемах, калі яны ўзніклі.

**— Поспехаў Вам у дапамозе ўсім нам!**

Алена Цярэнцьева.

# РАЗМОВА З ІНШАПЛАНЕЦЯНАМІ, АБО КАСМІЧНЫЯ "ПАЛЁТЫ" ІРЫНЫ НАЗАРАВАЙ

Яна не любіла хадзіць у дзіцячы садок... Там у "ціхую гадзіну" не спала – марыла... Уяўляла, як у расчыненае гіганцкае акно ўлятае белы конь з крыламі. Яна – у серабрыстых строях – бярэ ў рукі ззяючы меч, садзіцца на каня і імкнецца ў вышыню... Не разумела тады, што медытавала.

Ішлі гады. Ірына скончыла кансерваторыю, пачала выкладаць у музычнай школе. Выйшла замуж, нарадзіла сына. І "патанула" ў бясконцых сямейных клопатах. Якія ўжо тут медытацыі!

Здароўе яе, між тым, пагоршылася. З'явіўся аднекуль цэлы "букет" хвароб, які прычыняў блізкім нямала турбот. Нарэшце ў трыццаць гадоў вырашыла грунтоўна заняцца сабой – абрыдла "хныкаць"!

Рэзка змяніла спосаб жыцця: хатха-ёга, прана-ёга, разумнае харчаванне... Так хацелася паздаравець! А праз два месяцы з ёй пачало адбывацца незвычайнае...

Неяк сабралася Назарава на работу. Выйшла на вуліцу – насустрач салдат. І тут раптам яна ўбачыла ягоныя ўнутраныя органы, працэс стрававання. Каву, якая не паспела растварыцца ў страўніку...

Гэта было настолькі нечакана, што ёй, перакананай матэрыялістцы, зрабілася дрэнна. Вярнулася дамоў...

З таго дня ўсё і "пакацілася па ўзрастаючай". Хутка Ірына назірала ўжо свячэнне дрэваў. На змену гэтаму прыйшло кармабачанне.

Вось стомлена цягнецца вандроўнік. Падраны, няшчасны, галодны... Ён пройдзе частку шляху і заб'е з-за мізэрных грошай такога ж жабрака...

Пазней яна магла не толькі расказаць чалавеку аб тым, што чакае яго наперадзе, але і "зазірнуць" у мінулае. Занялася самаадукацыяй–"штудзіраваннем" тэасофіі.

Сон скараціўся да чатырох гадзін – гэтага аказалася дастаткова для добрага самааднаўлення. Больш таго, упершыню за шмат гадоў яна адчувала прыліў энергіі, сіл, бадзёрасці. Разумела свет "новымі" вачыма...

Прадказваць падзеі не любіла, але, незалежна ад сваёй волі, "атрымлівала інфармацыю" аб тым, што павінна здарыцца. І з роднымі ў тым ліку...

Аднойчы трэба было Назаравай паехаць на некалькі дзён у іншы горад. У аэрапорце сказала мужу: "Ты ведаеш, хутка памрэ ці брат, ці сястра майго бацькі. Адчуваю смерць кагосьці з іх..." Адразу, як прыехала, кінулася тэлефанаваць маці дамоў і даведалася, што памерла цётка...

Нарэшце яна вярнулася да медытацый. Узровень медытавання быў цяпер іншым, чым у дзяцінстве. У "палётах" зусім не адчувалася фізічнае цела, а астральнае "адлятала" так надоўга і на такія адлегласці! Маладой жанчыне здавалася: "там" яна жыве нават больш, чым "тут", у "гэтым" целе...

А затым – чарговы падарунак зверху: да яснабачання дадалася і ясначутнасць...

– Неяк ранняй вясной я знаходзілася ў кватэры адна, і раптам пачула галасы,– прыгадвае Ірына.– Адразу спалохалася: цяпер сапраўды мне ніхто не паверыць, абвінавацяць у вар'яцтве! Але я сапраўды чула – вельмі разборліва – чыесьці галасы. Спачатку гаварылі як бы ўбаку, на розныя абстрактныя тэмы. Прычым, мне здавалася, што гутарка адбывалася некалькі стагоддзяў таму, і толькі цяпер даходзіць да мяне. Гэтыя "тэлефонныя гутаркі", як іх назвала, проста шакіравалі. Вось, напрыклад, амаль даслоўна:

– Сара, прынясі мне вады. Яшчэ дзве пары сандаляў засталося. Сёння мала работы. "Яна": "Ты пойдзеш на казанне?" "Ён": "Так, абавязкова".

Або яшчэ. "Першы": "Глядзі, колькі золата намылі!" "Другі": "Хіба гэта золата? Крыхі! Трэба пайсці ніжэй па плыні". "Першы": "Не, туды нельга, там страляюць".

– Такія размовы раней мяне проста даймалі... А потым пачаліся "дыктоўкі". Спачатку ў прозе. Я імкнулася цалкам страціць прытомнасць, пісаць толькі тое, што чую, каб не было ніякіх "чалавечых" інтэрпрэтацый...

Часам яна адчувала сябе паддоследным трусам. Даўно забыла, калі рабіла легкадумныя ўчынкі. Цяпер жыццё нагадвала рух па канаце, які нацягнулі над безданню. Няправільны крок – сарвешся, разаб'ешся насмерць...

Адно няшчырае слова, дрэнны ўчынак, нядобрая думка – і сувязь з Космасам страціцца назаўсёды. Для яе цяпер гэта раўназначна смерці...

"Паглядзі ў сябе – там цэлы свет. Унутраны свет – твой праваднік у Космас. Разбярыся з праваднікам, які накіруе цябе ў далёкі шлях. Хто ты ёсць? Мы ўсе розныя, але чаша працягнута ўсім. Вып'ем і зразумеем... Веды прасвятляюць душу, благаслаўляючы яе на палёт да ісціны і свету. Гэты шлях робіць цябе мудрым і міласэрным. Не засмучай душу, не страчвай радасці жыцця. Бесперапынна будуй сябе. Ты будзеш у Космасе, бо ты з'яўляешся яго часткай і за ўсё адказваеш перад ім. Няма дробязей у тваім будаўніцтве",– вучылі...

І нібыта як узнагароду за "праведнасць" Назаравай распавядалі, хто яе бацькі, дзе яна жыла раней. Раілі, што рабіць у той ці іншай сітуацыі, паказвалі памылкі. Дыктавалі складаныя філасофскія тэксты – іх не заўсёды ўдавалася "расшыфраваць"... Аднак з тэкстамі ўсё ж часта разабрацца было можна. А вось са старажытнай пісьменнасцю, з незразумелымі іерогліфамі справа была намнога цяжэйшая...

"...Пасля гэтага ўдасканальвала свае "палёты", і далей "дыктоўкі" пайшлі ў вершах. Гэта было больш цікава. Інфармацыя ўскладнілася, у ёй з'явілася нейкая старажытная пісьменнасць. Я добра памятаю, што была індускай у мінулым жыцці, мела мужа і двух дзяцей... І тое, што ў мяне больш няма кармы. Не ведаю, наколькі гэта правільна – ёсць карма ці не – мяне гэта неяк не вельмі абцяжарвае. Але так было сказана. Паведамленні з кожным разам атрымлівала больш глыбокія. Відаць, гэта рабілася паступова з той мэтай, каб мой розум паспяваў усё ўспрыняць і засвоіць, і "не паехаў дах". Прычым інфармацыя – не бязглуздая. Прадказвалі катастрофы на Зямлі, якія потым адбываліся. Як Туапсінская катастрофа... Я загадзя казала пра гэта сябрам, але хіба яны маглі яе прадухіліць?"

Далей – болей. Кожны дзень Ірыну пачалі "забіраць" на дваццаць-трыццаць хвілін, што вельмі хутка перастала быць навіной для блізкіх. Зразумела, адбывалася гэта не па яе волі. Маладой жанчыне цалкам хапала і сваіх "зямных" клопатаў, але... Сярод белага дня яе раптам хінула да сну: кароткага і дзіўнага.

У адзін з такіх сноў яна трапіла ў "талерку", дзе сядзеў чалавек з васкавым колерам твару. Аб чым гутарылі? Ён сцёр у яе памяці ўсё. Пакінуў толькі дзве фразы: "Я вельмі стары, мне тысяча гадоў" і "Рыхтуйся да кантакту".

Другі сон "вынес" яе на велізарную пустэчу. Цікавая істота ў тонкім, як з плёнкі, камбінезоне падышла да яе. Светлыя – амаль празрыстыя – вочы, валасы, нібы штучныя – серабро з рыжым...

Сітуацыя амаль цалкам паўтарылася: "вярнуўшыся", Назарава нічога не памятала аб пачутым. Затое проста магла апісаць знешнасць свайго суразмоўніка.

У час трэцяга "кантактнага сну" касмічныя незнаёмцы паклапаціліся аб яе здароўі: правялі гаючы сеанс. І куды што падзелася? Хваробы нібы рукой зняло...

Цяпер яна лётала так высока, што адчувала іншае вымярэнне. Адны і тыя ж прадметы "там", з іншага пункту гледжання, выглядалі зусім незнаёмымі. Але змест іх заставаўся нязменным. "Не вельмі важная форма, важны змест",– пераконвалі ў "дыктоўках" Ірыну...

– Больш за ўсё мяне абцяжарвае адзінота,– горка ўздыхае Ірына.– Мала з кім з прафесіяналаў я магу пагутарыць на гэтую тэму. Да каго звярнуцца, хто займаецца падобным? А сама не здолею. Не хапае тэхнічных ведаў. Часта ў паведамленнях ідуць нейкія формулы. Запісваю іх проста, як машына. Але што яны значаць? І аб чым распавядаюць невядомыя знакі, што гэта за мова? Вось і зараз працягвае паступаць вялікая інфармацыя – графікі, знакі, вершы, малюнкі. Вымушана ўсё проста збіраць і "заспіртоўваць". І гэта не плод маіх фантазій, таму што я вельмі крытычна да сябе стаўлюся, аналізую кожны крок і проста ніколі нічога не дазволіла б сабе з галіны фантастыкі. Ды і першая ўстаноўка філасофіі, якую мне выкладалі,– абсалютная шчырасць. Імкнуся быць проста "антэнай", ніяк не інтэрпрэтаваць прывіды, акрамя як сваімі прыроднымі органамі: зрокам, слыхам. Лічу, што ўва мне тры "я": "я" – цела, "я" – душа і думка, "я" – інфармацыя Сусветная. Наогул, праваднікоў зараз дастаткова. Адны ўступаюць у кантакт на "фізіцы", іншыя – на падсвядомасці. Зносіны з іншапланецянамі на Зямлі – часцей за ўсё выпадковасць: рэдка ў такіх выпадках мэтанакіраваны кантакт з іх боку. А на падсвядомасці працуюць вельмі актыўна, гэта іх "вярбоўка". Так іншапланецяне ствараюць кантакцёраў-праваднікоў, якія здольны іх зразумець з пункту гледжання нашага трохмернага свету – максімум чатырохмернага свету. І не толькі зразумець, але імкнуцца нешта расказаць іншым людзям. Словам, ідзе прапаганда іх свету, жыцця. Стварэнне праваднікоў – адзін са сродкаў зносін Космасу з намі. Лягчэй за ўсё назваць такіх людзей прыдуркаватымі з парушанай псіхікай ці фантазёрамі...

Яе невялікая, але ўтульная, асляпляльна чыстая кватэра чымсьці нагадвае музей Космасу. Сцены стракацяць шматлікімі каляровымі малюнкамі: выявамі іншапланетных караблёў, прывабных незямных "вушасцікаў", розных аб'ектаў іншых цывілізацый – усім убачаным ёю "там"... На сталах і нават на падаконніках – акуратныя стосікі атрыманай інфармацыі.

– Вось адзін з апошніх вершаў,– яна працягвае ліст паперы, і першыя ж "выхапленыя" мной радкі ўрэзваюцца ў памяць:

" ...Простые средства предлагаю.
Хоть многое, конечно, не решаю,
Но все же хочется призвать:
Готовьте души для полета,
Ведь все равно придется вам летать..."

– Ірына, ці шчаслівая ты тым, што з табой адбылося?

– Так. Мне не прыйшлося ў пакутах і страхах шукаць ісціну. Мяне з першай гадзіны прасвятлення да апошняй хвіліны вядуць нібы за руку па касмічным шляху ўсё далей ад дому. Ад сябе былой – да сябе іншай. У гэтай "школе" ў мяне ёсць выкладчыкі: і духі паэтаў, і духі мастакоў (ніколі раней не пісала вершаў і не малявала алеем), і касмічныя браты, якія навучылі мяне бачыць і чуць, далі ўрокі маралі, вышэйшай духоўнасці, філасофіі быцця. Адкрылі дзверы ў іншыя сусветы, іншае вымярэнне, дзе няма часу. І ўсё гэта зрабілі паступова, крок за крокам. А я старанна запісвала іх "дамашнія заданні" – дыктоўкі – і працягваю запісваць. Такіх вучняў, як я, становіцца ўсё болей на Зямлі, але нам не вераць. Верыць ці не – справа кожнага. А мы вандроўнікі, якія не могуць збочыць са свайго шляху. Аднойчы я вельмі хварэла, і Яны выратавалі мяне ў злічаныя гадзіны, я паабяцала, што ўсё жыццё не страчу веры і буду расказваць аб іх усім, заўсёды. Я застануся вернай свайму абяцанню.

**Т.ЗАХАРАВА,**
**г.Краснадар.**
**(Па матэрыялах друку).**



Твар гэтай маладой кітаянкі мог упрыгожыць вокладку любога моднага часопіса. Прыгажуня Шан лічылася самай прывабнай у начных клубах Кантона. Выйшаўшы замуж за чыноўніка па імені Вонг, яна развіталася з прафесіяй свайго юнацтва, але далёка не для таго, каб схавацца ў сямейным гняздзечку. Яна падахвоціла мужа ўкласці грошы ў небяспечную, але прыбытковую справу — пірацтва і неўзабаве асабіста ўзначаліла разбойніцкую эскадру, і тым самым замяніла на капітанскім мосціку свайго не вельмі ўдачлівага чыноўніка, якога адправіла на той свет трапная куля берагавой аховы.

Зорка "каралевы піратаў" узыходзіла надзвычай імкліва. Цяпер пляваць яна хацела на вартыя жалю джонкі японскіх і ганконгскіх купцоў. Мадам пачала напады на буйныя склады ў портах і на вялікія суд-ны. Радыст аднаго з іх, магутнага партугальскага сухагруза "Апарта", убачыўшы, як да карабля набліжаюцца два тарпедныя катэры, што выскачылі раптам нібыта з марской бездані, паспеў даць сігнал бедства "SOS". Як ні спяшаўся на дапамогу ваенны карабель, што знаходзіўся зусім побач, на "Апарта" ўсё было зроблена ў адно імгненне. Адзін паранены марак, які паспеў скокнуць за борт і змог пратрымацца на вадзе, перад самай смерцю хоць і блытана, але расказаў пра жанчыну, што кіравала піратамі. Тыя, хто памятаў "прыгажуню Шан" па яе выступленнях у партовых карчмах, не сумняваліся: гэта яна!

Партугальскі карабель быў не першым і не апошнім. Цэлы шэраг нахабных нападаў бясстрашнай піраткі прымушалі дрыжаць і камерсантаў, якія баяліся за свае грузы, і нават адміністрацыю сакрэтных службаў. Вось тады ў газетах Паўднёва-Усходняй Азіі, на чых водных прасторах разгульвала злавесная кітаянка, з'явілася аб'ява: "Хто якім-небудзь спосабам даставіць жывую або мёртвую мадам Вонг... можа сам вызначыць велічыню ўзнагароды, улады ж гарантуюць выкананне гэтай умовы..."

Наўрад ці існавалі ў тыя гады іншыя жанчыны, чые справы былі ацэнены так высока і без усялякіх агаворак.

Зразумела, асоба гэтай жанчыны, як і яе "прыгоды" на моры, наўрад ці выклікаюць у каго цёплыя пачуцці. Але гісторыя не пахвальная грамата, якая выдаецца чалавецтву за добрыя паводзіны. І не калядная казка, дзе ўсё робіцца толькі добразычлівымі персанажамі. Ды што ж тады гаварыць аб рэальным жыцці? Тут калейдаскопы характараў, дзенняў, сітуацый пераплецены ў такі жгут, што выцягнуць з яго толькі тое, што нам больш падабаецца, немагчыма. Ды і наўрад ці варта гэта рабіць.

Няма сэнсу ўдакладняць, хто першы кінуўся па хвалях у пошуках здабычы. Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што ўжо ў Старажытнай Грэцыі марскі разбой не лічыўся ганебным, а славутыя героі Элады без кроплі сумнення называлі сябе піратамі. І хоць з цягам часу адносіны да такіх заняткаў прыкметна мяняліся, пірацтва набірала сілу і распаўсюджвалася па ўсіх марах-акіянах. Незалежна ад таго, як сябе называлі тыя, над галовамі якіх біўся флаг з чэрапам і скрыжаванымі касцямі, што называўся "Вясёлым Роджарам", — піраты, карсары, флібусцьеры, вікінгі, — сутнасць іх занятку была адна і тая ж. Карыстаючыся хуткасцю і добрым манеўрам сваіх невялікіх суднаў, моцнасцю мускулаў, абавязковым спрытам і адвагай, марскія разбойнікі даганялі адзінокі карабель. Выцягвалі ўсё з трумаў, куфраў, сейфаў — і гэтак жа імгненна знікалі.

Зразумела, што ў мадам Вонг брыганціны яе далёкіх папярэднікаў выклікалі б хіба што ўсмешку. Яна аддавала перавагу сучасным катэрам з магутнымі рухавікамі і найноўшай навігацыйнай тэхнікай. Паводле звестак англійскай разведкі, якая шмат гадоў палявала за мадам Вонг, лік яе верных карсараў перавышаў 3 тысячы, а паводле звестак партугальцаў, ён вызначаўся 8 тысячамі. Японцы сцвярджаюць, што ў яе распараджэнні было 150 суднаў і лодак. Усё гэта давала падставы гаварыць аб "пірацкай імперыі" мадам Вонг.

Міжнародная ж вышуковая арганізацыя — Інтэрполу заставалася толькі падлічваць страты тых, хто пацярпеў, ды яшчэ даходы мадам. А яны вунь якія — 150 мільёнаў долараў.

...Ішоў 1962 год. Баль у палацы віцэ-прэзідэнта Філіпін Эмануэля Пегаерса ў поўным разгары. Публіка бліскучая: міністры, дыпламаты, прамысловыя магнаты, кіназоркі. Тым не менш увага многіх прыкавана яшчэ да маладой жанчыны з выдатнай фігурай, якая тактоўна падкрэслена дарагім парыжскім туалетам. Брыльянты незнаёмкі псуюць настрой самым багатым дамам. Іх жа мужы, наадварот, гараць жаданнем пазнаёміцца з такой госцяй-прыгажуняй. "Пані Сенкаку", — сціпла і з годнасцю працягвае яна тонкую руку з бранзалетам шалёнага кошту. Пані Сенкаку садзіцца за столік ля картачнай гульні. Тутэйшыя аматары азартных змаганняў заўважаюць, што незнаёмка ўступае ў гульню толькі тады, калі ў банку шмат грошай. Маленькія стаўкі прапускае, кідае на стол толькі буйныя купюры.

Хтосьці з тых, хто назіраў за гульнёй, пажартаваў, што яна азартная і рашучая за картамі, як мадам Вонг на моры. Жарт спадабаўся, тым больш што незнаёмка дала яму нечаканы працяг: "Я і ёсць мадам Вонг".

Праз тыдзень віцэ-прэзідэнт атрымаў кароценькае пісьмо з Макао: "Дзякуй вам за міла праведзены вечар. Сенкаку-Вонг".

Што і казаць, мадам Вонг магла быць задаволена сабой. З памяці не сплылі сцэны партовага юнацтва, калі любы п'яны матрос мог купіць яе прыгажосць. А цяпер у паважлівым паклоне замяраюць перад ёю міністры. Паліцэйскія начальнікі? У яе ёсць спосабы прымусіць іх пабегаць. Рэдакцыя газеты, якая надрукавала зняважлівы для "каралевы піратаў" артыкул, узляцела ў паветра. Гэта, бадай, надта жорстка. Але такія правілы гульні.

Адзінае, што зневажала ўсемагутную "каралеву піратаў", — гэта нежаданне афіцыйных улад памірыцца з ёю і прызнаць яе заслугі. Чым яна горшая за капітана Дрэйка, жорсткага галаварэза, які атрымаў каліс з рук каралевы Лізаветы дваранства і самыя высокія ўзнагароды? І, само сабой, ніколечкі не ўступае сваёй знакамітай суайчынніцы — пані Цін.

На мяжы XVIII—XIX стагоддзяў не было ў Кітаі жанчыны больш магутнай і славутай, чым пані Цін. За кароткі час яна ўзнавіла ў паўднёва-ўсходніх марах пірацтва, якое занепала, ды на такім магутным узроўні, што ўрадавы флот быў не адзін раз пасаромлены яе хлопцамі. У 1802 годзе кітайскі імператар прысвоіў ёй ганаровае званне каралеўскага канюшага.

Шэсць эскадраў было ў падпарадкаванні разумнай, валявой адміралхі, усяго пірацкага флоту. Тут яна ўвяла сапраўды ваенную дысцыпліну. Пані Цін паказала сябе як вопытны камерсант і спрытны дыпламат. Яна змагла заручыцца тайнай падтрымкай як сярод уплывовых чыноўнікаў, так і ў мясцовага насельніцтва. Строга забаранялася абіраць сялян і абавязкова плаціць грашыма за ўсе сельскагаспадарчыя прадукты.

Ні маладосць, якая ўжо не вернецца, ні абяцанні ўлад забяспечыць мірнае, бязбеднае існаванне не прымусілі пані Цін развітацца з морам і сваёй прафесіяй. Яна так і дажыла свой век на моры ў якасці вярхавода буйной банды кантрабандыстаў.

...Мінулым летам у нашых газетах прамільгнула паведамленне аб тым, што зноў пачасціліся выпадкі нападу на караблі ў паўднёва-ўсходніх морах. Капітанаў папярэджвалі, каб захоўвалі гранічную асцярожнасць. Параілі ўзмацніць асвятленне палуб, павялічыць колькасць вахтавых і трымаць напагатове пажарныя помпы, каб у выпадку чаго змыць няпрошаных гасцей за борт.

А яшчэ лепш, калі ў шлангах не вада, а машынная пара.

Хто цяпер выйшаў у мора пад чорным пірацкім флагам: "капитан, обветренный, как скалы" або дочкі "Вясёлага Роджара"?






Людміла ЛЮБІМАВА.
("Крестьянка").

# ЗЯЛЁНЫЯ ВІТАМІНЫ

У старых кнігах аб лекавых раслінах можна знайсці апісанне "супрацьцынготных раслін". Яны абаранялі арганізм ад расстройстваў, якія адбываліся ў асноўным ад недахопу вітаміну С, крывацёку дзясен, кашлю, насмарку, ад вясновага стамлення.

І зноў мы звяртаемся да старога добрага вопыту і на вольнай прыродзе пакрыху збіраем парасткі крапівы, дзьмухаўцу, лісточкі фіялкі, крываўніку, трыпутніку, лясных суніц, блюшчыку, валяр'янніцы, бядрынца, шчаўя.

На садовых участках на пачатку вясны выкарыстоўваюць кансерваваную садавіну і агародніну, а таксама зяляніва, што вырошчваецца ў цяпліцы. Шніт-цыбулю, пятрушку, зялёную цыбулю вырошчваюць у вазонах на святле і цеплыні. Крэс-салату вырошчваюць у паддонах, пакетах з-пад малочных прадуктаў. Для гэтага на ўвільготненую вату густа высяваюць яго дробнае насенне, з якога праз тыдзень вырастае густое зялёнае "футра". Яе стрыгуць нажніцамі і свежым зяленівам пасыпаюць хлеб, бульбу, дадаюць у салату. Адначасова збіраюць перазімаваўшую цыбулю-парэй, хрэн, валяр'янніцу агародную, зімовую качанную салату, выбіраюць парасткі шпінату, мінулагодняга кастрычніцкага пасеву. З агародніны, што захавалася, для ежы скарыстоўваюць кальрабі "гігант", моркву, сельдэрэй, пятрушку, цыбулю, часнок, ранішнія пупышкі цыкорыі і доўгі час — качанную капусту.

У канцы вясны гатовы ўраджай радыскі, салаты, кропу, агурочніку ранняга сакавіцкага пасеву, крыху пазней — шніт-цыбулі — усё з градак, якія былі накрыты плёнкай для абароны ад маразоў і хуткага росту. У сакавіку сеюць гарох, пятрушку, цыбулю-сеянку, моркву, саджаюць яравыя сарты часнаку. У канцы красавіка сеюць цыкорыю для атрымання зімовых пупышак, зноў сеюць гарох, кроп, моркву, радыску, холадаўстойлівую салату, потым саджаюць качанную, брусельскую і каляровую капусту, кальрабі сінюю, белую і сарты "гігант", буракі. Высаджваюць цыбулю-сеянку, салату і цыбулю-парэй, таксама раннюю бульбу, якая прарасла і ўкаранілася ў торфе. Пачынаюць убіраць рэвень, чабор, любісту.

## Агурочнік лекавы (агурочная трава)

Аднагадовая лекавая расліна з разгалінаваным сцяблом, варсістымі лістамі і блакітнымі кветкамі. Скарыстоўваюць толькі свежыя маладыя лісточкі ў перыяд да выгану сцябла. Мае смак і пах свежых гуркоў.

Агурочнік можна вырошчваць у гародзе, у скрынях або вазонах. Насенне высяваюць у глебу ў пачатку красавіка. Праз тыдзень з'яўляюцца ўсходы. У памяшканні або парніку яго можна сеяць нашмат раней (у лютым) і збіраць маладыя лісты як зялёную вострую прыправу, зялёную агародніну. Агурочнік — лекавая расліна. У гэтых мэтах зяляніва збіраюць у пачатку цвіцення і сушаць у цяні.

Агурочнік аказвае мачагоннае і сэрцнеслабіцельнае, а таксама процізапаленчае ўздзеянне, рэгулюе дыханне. Свежаадціснуты сок скарыстоўваюць пры вясновым лекаванні, ён дапамагае паскарэнню абмену рэчываў і пры неўрастэніі, пры загойванні ран.

У кулінарыі яго дадаюць у салаты з агуркоў, таматаў і бульбы, рагу з агародніны і мяса, у халодныя прыправы (маянэзы), тварожныя пасты, да рыбы і смажанага мяса. З агурочніку і цыбулі рыхтуюць салату — з лімонам, соллю і перцам. Маладыя лісты можна тушыць з цыбуляй і маслам, як шпінат.

## Бяроза

Збіраюць маладыя, яшчэ ліпкія лісты пасля распускання. Іх зрываюць асцярожна і толькі з невялікай колькасці галін, каб не пашкодзіць дрэва.

Скарыстоўваюць лісты не толькі як настой, але і для ванны. Яны паскараюць абмен рэчываў, выдзяленне мачы, поту. Лісты ўваходзяць у склад антырэўматычных і дыурэтычных чаёў, валодаюць дэзінфецыруючай уласцівасцю. У бярозавых пупышках шмат водаравых эфірных масел.

Настойку-чай рыхтуюць з 1 сталовай лыжкі сухіх лістоў на 1 кубак вады.

Настойку скарыстоўваюць для ўмывання і чысткі скуры твару, яна валодае аднаўляльным дзеяннем (50 г на 0,5 л кіпню, настойваць 15 хвілін).

## Трыпутнік ланцэтападобны

Лісты трыпутніку лепш за ўсё збіраць да яго цвіцення (май—верасень). Ён змяшчае гліказіды, слізі, дубільныя рэчывы, вітаміны, галоўным чынам С. На арганізм гэтыя рэчывы ўздзейнічаюць комплексна. Трыпутнік — частка грудных і жаўцягонных прэпаратаў, дапамагае пры астме, запаленні мочавывадных шляхоў, жоўцевага пузыра. Як вонкавы сродак сок з чыстых свежых лістоў скарыстоўваюць для загойвання ран, а цэлыя лісты — для кампрэсаў пры пухлінах (укусах насякомых). Чысты свежы ліст спыняе крывацёк пры невялікіх ранах.

Лісты трыпутніку сушаць для чаю. Зрываюць толькі лісты, звяртаючы ўвагу на тое, каб іх не змяць. Сушаць, расклаўшы тонкім слоем у цяні на прадзімным месцы. Свежыя лісты скарыстоўваюць для супоў (1 лыжка на 1 літр вады), лісты можна мачаць у цеста і жарыць. Трыпутнік валодае і касметычным уздзеяннем. З яго рыхтуюць цудоўны сіроп (мёд) для дзяцей (ад кашлю).

### Сіроп з трыпутніку

Маладыя лісты нарэзаць і старанна скласці ў шклянку. Кожны сантыметровы слой заліць мёдам (можна засыпаць цукрам). Прымінаючы масу, запоўніць усю шклянку. Трыпутнік настойваць на мёдзе (цукры) каля 10 дзён, затым атрыманы сіроп зліць. Скарыстоўваць пры запаленні верхніх дыхальных шляхоў, кашлі, для адхарквання, а таксама пры страўнікавых і кішэчных захворваннях.

### Туалетная вада з трыпутніку

10 г сухіх або 30 г свежых лістоў заліць 100 г кіпню і настойваць прыкладна паўгадзіны. Затым працадзіць і змяшаць з такой жа колькасцю дваццаціпрацэнтнага спірту.

Вада годная для бруднай скуры твару з запаленчымі працэсамі.

## Крапіва двухдомная

Шырока скарыстоўваецца ў якасці лекавай расліны, а таксама ў кулінарыі. Збіраюць самыя маладыя парасткі ў пачатку вясны, пазней — толькі маладыя лісты і верхавінкі.

Крапіва садзейнічае нармальнаму страваванню, дзейнасці страўніка, валодае жаўцягонным і мачагонным эфектам, уплывае на кроваўтварэнне. Свежаадціснуты сок з лістоў — частка сродкаў "вясновага лекавання". Свежае зяляніва крапівы як народны сродак скарыстоўваюць у барацьбе супраць рэўматызму, балючых месяцы лепш забяспечваюцца крывёю, калі іх адхвастаць крапівой. Са свежага і сушанага зяляніва рыхтуюць настойкі для аздараўлення валасоў. Сушанае зяляніва крапівы скарыстоўваюць у фармакалогіі, яна служыць элементам антырэўматычных, дыурэтычных, метабалічных сумесей, настоек для адхарквання і чаёў. Перад кулінарнай апрацоўкай крапіву папярэдне добра прамываюць. Пякучасць крапіва страчвае пасля апрацоўкі гарачай (85°) вадой або пры кіпячэнні. З крапівы можна гатаваць супы, "шпінат", амлеты, дадаткі да салаты, яечню, фарш, начынку, сечаныя мясныя стравы, паштэты.

### Крапіўны суп

*2 жменькі маладой крапівы, 1 цыбуліна, 200 г каранёвай агародніны, соль, перац, 0,25 л смятаны, 2 жаўткі, 1 сталовая лыжка мукі, 1 сталовая лыжка лімоннага соку, 2 сталовыя лыжкі цыбулі.*

Ачышчаныя агародніну і цыбулю дробна нарэзаць і варыць у 1 л падсоленай вады або булёну. Калі агародніна стане мяккай, дадаць прамытую, дробнанарэзаную крапіву. Заліць смятанай, размяшаць у ёй муку. Праварыць. У гатовы суп пакласці жаўток, але ўжо не варыць, каб ён не звярнуўся.

Нарэшце, дадаць здробненую цыбулю і на смак лімонны сок.

### Бульбяны суп з крапівой

*300 г бульбы, 1 цыбуліна, 2 зубкі часнаку, соль, тмін, перац, 2 жменькі крапівы, 50 г сметанковага масла, 3 сталовыя лыжкі мукі, пятрушка.*

Ачышчаную бульбу, цыбулю, часнок дробна нарэзаць і варыць у 1,25 л падсоленай вады разам з вострымі прыправамі. Між тым, усухую абсмажыць да ружовага колеру муку. Калі бульба будзе амаль мяккай, загусціць суп абсмажанай мукой. Паварыць яго і дадаць прамытую і здробненую крапіву. Пакінуць варыцца суп, назіраючы. Пасля кіпення і сканчэння варкі дадаць у згушчаны суп масла і пятрушку. На смак пакласці ў суп спецыі.

### Крапіўны шпінат

*2 лыжкі сметанковага масла, 1 цыбуліна, 2 зубкі часнаку, 2 сталовыя лыжкі мукі, 1 талерка прамытай і дробна нарэзанай крапівы, 150 г малака, соль, можна яйцо.*

На масле крыху абсмажыць здробненую цыбулю з часнаком і мукой. Дадаць крапіву, заліць малаком, дадаць на смак соль, хутка праварыць. Можна загусціць яйцом.

Падаюць у якасці гарніру да яечні, мяса, катлет разам з варанай бульбай.

### Бульбяная салата з крапівой

*300 г варанай бульбы, 100 г варанай агародніны, 1 цыбуліна, соль, перац, 2 звараныя ўкрутую яйкі, 100 г маянэзу, 1 сталовая лыжка смятаны, 5 сталовых лыжак маладой крапівы, жменя цукру, лімонны сок, 2 марынаваныя гуркі, можна дадаць 100 г вяндліны або варанай каўбасы.*

Вараную халодную бульбу і агародніну нарэзаць кубікамі. Дадаць дробна нарэзаную цыбулю, соль, перац, нарэзаныя яйкі, марынаваныя гуркі, можна вяндліну.

Маладую крапіву ашпарыць, даць сцячы і дробна нарэзаць. Змяшаць з іншымі кампанентамі, заліць маянэзам, смятанай, дадаць цукар і на смак лімонны сок. Салату добра перамяшаць, астудзіць і падаваць, упрыгожыўшы вяндлінай, качаннай салатай, кружочкамі нарэзаных вараных яек.

### Крапіўны настой для валасоў

*100 г свежай крапівы, 0,75 л вады, 0,25 л васьміпрацэнтнага воцату.*

Крапіву заліць вадой і пасля ахаладжэння дадаць воцат. Цёплай настойкай паласкаць валасы кожны вечар на працягу 10 дзён. Валасы набудуць здаровы выгляд, стануць больш эластычнымі і бліскучымі. Для прыгатавання настойкі можна скарыстоўваць свежую і сушаную крапіву. У запас можна сушыць крапіўныя лісты і верхавінкі — у цяні, тонкім слоем, каб лісты захавалі зялёны колер.

По матэрыялах кнігі Д.Ланска "З лесу і агароду — з вясны да зімы" падрыхтавала Н.Плыткевіч.

